ISSN 0320-7579

№ 12/2015(1051)

# Бярозка № 12

 самае неверагоднае!

Малюнак Алесі Галоты

## ЧАРОЎНАЯ НОЧ
і мяшок Дзеда Мароза

## НАВАГОДНЯЯ ПРАГРАМА МАРЫНЫ В.
і дзесяць парад да школьнага свята

ВІКТАРЫНА
ПАДАРУНКІ
МАЙСТАР-КЛАСЫ

## СВЯТОЧНЫЯ ДЗЕІ
Батлейка

# ВЯЛІКАЕ ЗА ГОД — ПРАЗ МАЛЕНЬКАЕ ШТОДЗЕНЬ

# Шэсць пытанняў пасля прачытання

*Дружа!*
*Ці чытаў ты «Бярозку» круглы год? Калі так, то табе нескладана адказаць на пытанні. Адкажы правільна — і атрымаеш ад рэдакцыі стос навагодніх падарункаў.*

**1.** Дзікабраз выконвае блюз, клоп спявае ў стылі поп, а крот пад зямлёй піша факстрот. Хто аўтар гэтай музычнай экспрэсіі і ў якім нумары «Бярозкі» яна друкавалася?

**2.** Хлопчык быў вельмі непрыгожы, гарбаты, з занадта доўгім носам і тонкімі скрыўленымі ножкамі. Але як жа цудоўна ён маляваў! Згадай аўтара гэтай сумнай гісторыі, назву твора і нумар часопіса, у якім ён надрукаваны.

**3.** Гэты госць аднаго з нумароў «Бярозкі» шчыра прызнаецца, што ягонымі настаўнікамі ў музыцы былі Стыві Уандэр і Майкл Джэксан, хоць сам ён не з'яўляўся іх фанатам. Яшчэ ён часта мяняў школы, а самым першым сваім выступленнем назваў выпускны спектакль паводле санетаў Шэкспіра. Хто гэта і ў якім нумары ён «гасцяваў»?

**4.** Імя хлопчыка было Янко, а не Янка. Але галоўная гераіня апавядання называла яго менавіта Янкам. Ад цябе, дружа, назва твора, імя яго аўтара і нумар часопіса.

**5.** Гэтая дзяўчынка — самая юная ўдзельніца тэлеконкурсу «Я спяваю» ў 2014 годзе. Як яе імя і ў якім з нумароў «Бярозкі» было надрукавана інтэрв'ю з дзяўчынкай і яе маці?

**6.** Ёсць шмат спосабаў перавыхаваць хулігана. Адзін з іх апісаны пісьменнікам Кузьмой Чорным у апавяданні… Як называецца твор і ў якім нумары «Бярозкі» пра яго расказваецца?

***Адказы пад нумарамі, адпаведнымі нумарам пытанняў, дасылай на bjarozka@zviazda.by.***

***Абавязкова напішы нумары хатняга або мабільнага тэлефонаў.***

***Прозвішчы пераможцаў будуць надрукаваны ў № 2 за 2016 год.***

# Чароўная ноч


Ганна Варонка, 11 клас, Свіслацкая гімназія

***Сняжынкі павольна падаюць з неба — робіцца ўтульна і прыгожа. Здаецца, што ўсё пачынаецца нанава, з чыстай старонкі. У душы штосьці змяняецца — ты зноў пачынаеш верыць у казку. Ты глядзіш на дзяцей, якія лепяць снежную бабу, мокрых, з чырвонымі насамі, — і пазнаеш у іх сябе. Вакол спяшаюцца людзі з цяжкімі сумкамі наперавес, хрумкаючы сняжком пад нагамі. Увечары ва ўсіх вокнах пачынаюць гарэць прыветныя агеньчыкі гірлянд. Усё цудоўна ў гэты час.***

Кожны год трыццаць першага снежня мы... не, не ходзім у лазню, а ставім ёлку да самай столі.

Калі цацкі і цукеркі вісяць на сваіх месцах, а дожджык пераліваецца, застаецца толькі запаліць агеньчыкі. Ёлка, як Папялушка, сабраўшыся на баль, пачынае зіхацець цудоўным убраннем. Пазней пад ёй з'яўляюцца вазы з мандарынамі, грэцкімі арэхамі і цукеркамі. Але самае галоўнае — гэта мяшок з падарункамі, вакол якога я хаджу ўвесь дзень, як кот вакол сала. З кухні далятаюць чароўныя пахі, навагоднюю вячэру мы гатуем у сапраўднай рускай печы, таму стравы атрымліваюцца асабліва смачнымі. Навагодняя мітусня — гэта нешта чароўнае: і вясёлая бегатня па крамах у пошуках падарункаў, і генеральная ўборка, і рэклама па тэлебачанні — усё прыносіць радасць.

Калі Новы год амаль на парозе, я люблю выйсці на вуліцу. Я гляджу на зоры: ці то ў надзеі ўбачыць Дзеда Мароза, які праязджае на санях, ці то ў чаканні нямедомага цуду — не ведаю, але адчуваю, як паветра літаральна насычана чараўніцтвам. Я прашу прабачэння за памылкі і загадваю жаданне. Маленькія сняжынкі апускаюцца на вейкі, я нібы адна ў цэлым свеце стаю пад такім вялікім небам. Гэта незвычайная ноч — ноч спаўнення неверагодных жаданняў і недасяжных мар, ноч прабачэнняў, казачная ноч.

Я вяртаюся дамоў, па целе прыемна разліваецца цяпло. Выклікае ўсмешку кот Барсік — ён упершыню ўбачыў такую з'яву як ёлка і ў шоку ад незразумелай штуковіны. Мы накрываем на стол. Час праводзіць Стары год. Куранты праб'юць дванаццаць — і ў дзверы пастукае Новы год. Людзі будуць танцаваць і спяваць, будзе ўзрывацца салют, але, як па мне, усё, што трэба, — тут: гараць свечкі, блішчаць агеньчыкі гірлянды, сядзяць побач родныя людзі… Дай Бог, каб было так заўсёды.

Я жадаю табе, любы чытач, каб, як ты прачнешся ў новым годзе, чараўніцтва не знікла з прыходам святла. Хай кожны вернецца туды, дзе душа адчувае сябе дома. Хай кожны сустрэнецца з тым, каго любіць. Не вер, што чараўніцтва не існуе. Яно побач.

***Аўтарка года Ганна Варонка атрымлівае ад рэдакцыі стосік навагодніх падарункаў!***



# З новым шчасцем?


Кацярына Захарэвіч

***У Італіі перад Новым годам выкідваюць старыя рэчы, у Тайландзе «змываюць» стары год, паліваючы адно аднаго вадой, у Шатландыі выпускаюць непатрэбнае праз дзверы, у нас жадаюць «новага шчасця». Напярэдадні свята ўсе імкнуцца змяніць жыццё. Чалавек — істота заўсёды нечым незадаволеная.***

І вось мы ўжо абяцаем сабе добра вучыцца, чытаць больш кніг, рэгулярна пісаць артыкулы для «Бярозкі», займацца спортам і знайсці новае захапленне. Нецярпліва адлічваем удары гадзінніка да новага жыцця... А раніцай, седзячы перад тэлевізарам ці камп'ютарам, ужо не памятаем, што наабяцалі сабе «пад куранты». Пачаць лепш вучыцца? На канікулах? Ты сур'ёзна?! Выйсці вечарам на прабежку? Цёмна ж, халодна...

Час ідзе, школа патрабуе стараннасці, надвор'е спрыяе спорту і рухавым гульням, але самаабяцанкі надзейна пахаваны ў галаве да наступнага Новага года. Надакучлівы кругаварот самападману? Давай паспрабуем зрабіць так, каб гэты год сапраўды стаў новым!

*1. Складзі спіс мэт, якіх ты хочаш дасягнуць за наступны год.*

Не разганяйся! Няхай іх будзе няшмат, але ты будзеш упэўнены, што здзейсніш свае планы. Вялікімі прыгожымі літарамі напішы мэты на аркушы паперы і павесь там, дзе ты будзеш бачыць іх найчасцей. Няхай твае вока чапляецца за гэты спіс штораніцы, няхай гэтыя пункты будуць табе натхненнем, калі не будзе ставаць сіл, ці нямым дакорам, калі абленуешся.

*2. Каб зрабіць штосьці вялікае за год, варта рабіць нешта маленькае штодзень.*

На падставе агульнага спіса складай сабе больш падрабязныя планы на тыдзень ці нават на кожны дзень. Калі, напрыклад, ты хочаш «падцягнуць» матэматыку ці беларускую, пастанаві сабе штодзень выконваць дадатковае практыкаванне (акрамя дамашніх заданняў).

*3. Разам — весялей!*

Знайдзі сабе кампаньёнаў па дасягненні пастаўленай мэты. Гэта можа быць чалавек больш дасведчаны ў той галіне, якую ты выбіраеш, або навічок. Можна падтрымліваць адно аднаго, а можна крыху пасапернічаць, пабіцца ў заклад.

*4. Не ганіся за чарговым пуктам плана.*

Усё, што ты робіш, патрэбна толькі табе. Сябе няварта падманваць павярхоўным дасягненнем як мага большай колькасці задач. Лепей выканаць адзін пункт, але зрабіць гэта якасна.

*5. Галоўная мэта — быць шчаслівым.*

Не ўсе могуць атрымліваць асалоду ад пераадолення сябе і выхаду з зоны камфорту. Таму калі аднойчы (аднойчы!) табе захочацца правесці вечар з кнігай і гарбатай, а не ісці на прабежку цёмным слотным вечарам, варта зрабіць сабе такое паслабленне. Змяненне жыцця ў лепшы бок не павінна быць пакутай.

# Чалавек — вінцік ці творца?



Сяргей Грудніцкі, 11 клас, СШ № 66, Гомель

***Кожны чалавек у нейкі момант спыняецца і задае сабе пытанні, пра якія раней не задумваўся: «Якая мэта майго жыцця?», «Для чаго і дзеля чаго/каго я жыву?», «Што галоўнае?», «Якая мая роля ў грамадстве?», «Што я пакідаю пасля сябе?»***

Адказы даць не так проста, яны прыходзяць з узростам, вопытам, мудрасцю. Але гэта не значыць, што мы не павінны разважаць на філасофскія тэмы. Чалавек — гэта, перш за ўсё, маленькі вінцік у жыцці цэлага свету. Калі разгледзець пытанне літаральна і звярнуцца да якога-небудзь механізма, то можна адзначыць, што без самай маленечкай шрубкі ніякая прылада, ад кішэннага гадзінніка да трактара, не зможа працаваць, а калі і запрацуе, то неўзабаве сапсуецца. Так і ў грамадстве: людзі, аб'ядноўваючыся ва ўмоўныя групы (кампаніі, фірмы, заводы, фабрыкі), выконваюць адну вялікую ролю ў жыцці сваёй краіны, а можа быць, і свету.

Прапаную цяпер перанесціся ў краму. На паліцах яе кожны дзень можна бачыць свежы хлеб. Але ці ўбачылі б мы яго, прыгатаваны ўмелымі пекарамі, калі б не было грузчыкаў і хлебавозаў, прадаўцоў і людзей, якія выкладваюць прадукты на паліцы? А не было б пекараў — то і кіроўцы не ўскладнялі б сабе жыццё дастаўкай батонаў і булак. Не было б млынароў — і пекары засталіся б дома з-за адсутнасці неабходных інгрэдыентаў. Не было б механікаў — і вытворцы мукі не змаглі б атрымаць яе на зламаных машынах. Не было б камбайнераў — і палявыя злакі не было б каму сеяць, а потым і прыбіраць. Не было б станочнікаў — і шлях збору пшаніцы значна б ускладніўся. Не было б металургаў — не было б велізарных машын: збіраць іх не было б з чаго. Не было б шахцёраў — і метал для дэталяў камбайнаў здабыць не ўяўлялася б магчымым. Які, здавалася б, просты вынік — бохан хлеба, а колькі людзей розных прафесій задзейнічана ў працэсе!

Разумець, што ты неабходны свету і што ён, свет, мае патрэбу ў тваёй працы як вялікі механізм у маленькай шрубцы, — варта.

А калі чалавек становіцца не проста часткай грамадства, але творцам гісторыі і культуры? Тады, калі ён пастаянна развівае свае навыкі і ўменні, атрымлівае як мага больш ведаў у сваёй сферы дзейнасці, імкнецца вучыцца новаму і лепшаму, сочыць за прагрэсам... Так, ён аддае вольны час і грошы на развіццё ў прафесійнай галіне. Але толькі такія мэтанакіраваныя, адданыя асобы дамагаюцца высокіх вынікаў і скараюць недасягальныя вяршыні, пакуль астатнія аддаюць перавагу адпачынку і забавам.

Творцам гісторыі стаць няпроста — для гэтага спатрэбіцца максімум намаганняў і вытрымкі, стрыманасці і цягавітасці. Але ўсведамляць, што ты з'яўляешся дэміургам, куды больш ганарова і прыемна, чым проста быць вінцікам у жыцці грамадства.

# Гісторыя адной кавы


Папяровы стаканчык

***Я застаўся адзін мерзнуць ад ветру. І бываюць жа людзі: пакідаюць стаканчыкі не ва ўтульнай кавярні, а на століку, які стаіць на вуліцы. Няўжо яны не разумеюць, што мне таксама холадна і я, на жаль, не маю нават шаліка. Думаюць, што калі я папяровы стаканчык, дык нічога мне не патрэбна? Памыляюцца… Але ж я не крыўджуся. Навошта? У людзей і так шмат праблем, куды ім яшчэ крыўда непрыкметнага стаканчыка?***

Мяне пакінула дзяўчына. Вельмі прыгожая. Здаецца, яна кудысьці спяшалася, бо каву недапіла. Дзіўна, але дзякуй ёй: ад цёплага напою ўнутры мне значна цяплей. Шкада толькі, што яна хутка збегла, — у яе былі вельмі прыемныя рукі. Мне гэта запомнілася, таму што прыгажуня была без пальчатак. І я адразу адчуў пяшчоту яе далонек, стараўся сагрэць іх. Але раптам пачуўся тэлефонны званок, дзяўчына штосьці сказала (прабачце, чалавечую мову ведаю дрэнна) і знікла, так і не дакрануўшыся да мяне вуснамі.

Калі застаешся адзін, адразу пачынаеш думаць пра сэнс жыцця і пра ўсё такое, ведаеце, філасофскае. Я, напрыклад, зусім не памятаю, як з’явіўся. Некаторыя мае сябры-стаканчыкі казалі, што нас зрабілі з дрэва. Я ведаю, што такое дрэва. Мы з ім непадобныя. Але на сяброў я таксама не крыўджуся. Хай яны вераць у гэтыя казкі. Я люблю казкі, нават чуў адну, пакуль стаяў яшчэ там, у кавярні. Быццам ёсць у нашым горадзе хлопец, які сваю каханую мог бы пазнаць з першага позірку. Але яе пакуль няма.

Вы, людзі, увесь час высвятляеце сэнс існавання. Я таксама яго шукаю. Кажуць, у папяровых стаканчыкаў сэнс адзін — трымаць каву або гарбату. Але сумна гэта, рамантыкі не хапае… Так, я ў казкі не веру, аднак цудаў хочацца! У кожнага стаканчыка свой лёс. Мой, напрыклад, зусім маркотны: нават каву з мяне не папілі…

Ох, ужо халадней! Кава ледзьве цёплая. Не бывае казак: не вернецца прыгажуня.

Што здарылася? Хтосьці схапіў мяне ў цёплыя рукі! Гэта дакладна не афіцыянт з кавярні, у таго далоні пахнуць цукеркамі. Ой, гэты нехта ідзе вельмі хутка, хоць бы не разліў каву!.. Не, малайчына, нясе мяне асцярожна. Толькі куды? Гэй, вось жа тая прыгажуня! Няўжо да яе?

Я адчуў цёплы подых абодвух. Ён штосьці сказаў і працягнуў мяне ў дзявочыя рукі. Як шкада, што я дрэнна разумею чалавечую мову! Але адно слова, якое часта можна было пачуць у кавярні, я ўсё ж ведаю. Яго прыгажуня і вымавіла, усміхнуўшыся: «Дзякуй!»

***Пераклала на чалавечую мову Ганна Яўсейчык***

# «Лепшы» падарунак


Яна Мусвідас

***Я нарадзілася 29 снежня, таму для мяне дзень нараджэння, Новы год і Каляды звязаны адзіным святочным духам. Аднак не заўсёды ўсё праходзіла гладка. Аднойчы ў маім жыцці здарылася нешта вельмі непрыемнае.***

29 снежня 2003 года, у мой шосты дзень нараджэння, любімыя бацькі, самі таго не чакаючы, сапсавалі мне свята. Я атрымала самы няўдалы падарунак у маім жыцці. Як цяпер памятаю свае слёзы і пытанне, якое не пакідала мяне: за што? Атрыманы з раніцы «прэзент» увесь дзень не даваў мне спакою, адно яго ўзгадванне выклікала істэрыку.

Новенькі сярэбраны самакат, абкручаны чырвонай стужкай, стаў самым дрэнным падарункам у маім жыцці, яго я ўспамінаю і па сёння.

Памятаю, хутка падступалі слёзы, праз якія дрэнна было разабраць разгубленыя твары бацькоў. Памятаю, тата ўзгрувасціўся на мой самакат і пачаў катацца па ўсёй кватэры: глядзі, доча, як здорава! Чаго плачаш? Мама абдымала мяне і спрабавала супакоіць, але ад усіх іх намаганняў мне рабілася толькі горш.

Трохі супакоіўшыся, я спытала ў бацькоў: «Навошта самакат? Я ж не ўмею на ім ездзіць». Тата ўпэўнена адказваў: «Навучышся!» Ён не разумеў: я не хацела вучыцца.

Магчыма, хтосьці вырашыць, што я разбэшчаная і капрызная. Але праблема была не ў гэтым. Я не магу растлумачыць, што адбылося ўнутры мяне і чаму я так знервавалася, але ў свае сямнаццаць я ўсё яшчэ ўспамінаю той гаротны самакат. Катацца я навучылася, а крыўда засталася.

Напрыканцы 2014-га Джымі Кімэл у сваім ток-шоу прапанаваў бацькам падарыць сваім дзецям на Каляды дрэнныя падарункі і загрузіць відэа з іх рэакцыяй у YouTube. Я была вельмі здзіўлена: мноства бацькоў адгукнуліся на яго прапанову.

Бедныя дзеці вельмі расчароўваліся, калі выцягвалі з падарункавай упакоўкі надкусаныя сэндвічы або сапсаваныя бананы. Амаль усе плакалі, некаторыя спрабавалі даведацца, чаму іх бацькі так з імі абышліся.

Пасля прагляду роліка я зрабіла дзве высновы. Па-першае, я не адна такая — усе дзеці не ўмеюць хаваць засмучэнне. Па-другое, мне, у параўнанні з іншымі, яшчэ пашанцавала з падарункам.

Сёння я ўдзячная сваім бацькам за адэкватную рэакцыю і за тое, што «правальных» падарункаў больш не было. Спадзяюся, што і бацькі, якія паўдзельнічалі ў акцыі Кімэла, больш ніколі не будуць так «жартаваць» са сваімі дзецьмі. Бо такія непрыемныя выпадкі адкладаюцца ў памяці надоўга.

## НАВАГОДНІ КОНКУРС СНЯЖЫНАК

Вазьміце два аднолькава невялікія, лёгкія кавалачкі ваты. Задача кожнага ўдзельніка — дзьмухаць на свой кавалачак так, каб вата як мага даўжэй заставалася ў паветры альбо ўзнялася як мага вышэй.

# Новы год у школе

**10** *парад ад Алёны Беланожкі для тых, хто хоча зрабіць школьнае свята цікавым і запамінальным*

**1 парада**

### *Задайце тэму і прадумайце дэталі*

Няхай ваша вечарынка будзе тэматычнай. Напрыклад, у стылі галівудскіх кінастужак, з «чырвонай дарожкай», уручэннем «оскараў» або іншых «узнагарод» — за выбітныя школьныя дасягненні. Для вучняў малодшых класаў гэта можа быць «Дысней-party». Выберыце самую прыгожую маленькую прынцэсу вечарынкі!

Можаце звярнуцца да народных вытокаў і адсвяткаваць Новы год у традыцыйным стылі — з конкурсам «гуртоў», ваджэннем Казы, Шчодры або Мядзведзя па школьных кабінетах (не забывайце пра кабінет дырэктара і настаўніцкую), народнымі гульнямі і спевамі. Вам спатрэбіцца музы́ка з гармонікам? Задзейнічайце выкладчыка музыкі! Гітара і бубен з трашчоткамі таксама не будуць лішнімі.

**2 парада**

### *Рабіце рэквізіт і дэкарацыі сваімі рукамі*

Упрыгожце ёлку самаробнымі цацкамі. Арганізуйце ў школе конкурс, а падчас вечарынкі ўручыце прызы за самую незвычайную цацку, самую далікатную работу, самую нестандартную перапрацоўку знаёмай рэчы.

З дапамогай выкладчыка выяўленчага мастацтва арганізуйце конкурс на лепшы навагодні плакат-віншаванне, лепшую навагоднюю насценгазету, лепшую выцінанку... Абавязкова ўручыце пераможцам дыпломы і прызы!

3 парада

*Падрыхтуйце аднакласнікам і настаўнікам арыгінальныя падарункі*

Іх можна прыгожа афарміць і пакласці пад ёлку, каб яны сталі часткай святочнага інтэр'ера. Яны могуць вісець на ёлцы — у якасці ўпрыгожванняў, або змяшчацца пад столлю ці ўздоўж сцен — у навагодніх шкарпэтках. Падарункі можна «замаскіраваць» у зале, каб потым тыя, каму яны адрасаваныя, шукалі іх з падказкамі. Музычны нумар і яркае вершаванае віншаванне таксама можа быць выдатным падарункам.

4 парада

*Правільна падбірайце святочныя конкурсы*

Няхай іх будзе многа і няхай яны будуць такімі, каб ніхто не запэцкаўся, не прамок, не параніўся і не пакрыўдзіўся. Не арганізуйце конкурсы з ежай або напоямі — гэта небяспечна! Будзе добра, калі пасля праведзенага конкурсу вам не спатрэбіцца выклікаць прыбіральшчыцу — няхай падлога застаецца чыстай, а святочныя касцюмы — цэлымі.

5 парада

*Распрацуйце музычнае афармленне*

Канешне, у вас будуць танцы. Разам з дзі-джэем распрацуйце такі плэй-ліст, каб улічыць музычныя густы ўсіх прысутных. Можна перад вечарынкай правесці апытанку, якую музыку любяць запрошаныя на свята. Калі вечарынка запланавана ў стылі «джаз» або «рок-н-рол», то і музычнае напаўненне павінна быць адпаведным — народныя танцы, поп-музыка і вальс тут, відавочна, будуць лішнімі.

6 парада

*Магчыма, вам захочацца «перакусіць»*

Калі вы плануеце «салодкі стол» або лёгкі фуршэт, няхай ваша «ліманадная зона» знаходзіцца воддаль ад асноўных падзей. Так вы падчас танцаў і конкурсаў не будзеце спатыкацца аб сталы і крэслы. Няблага, калі стылістычна яна будзе адпавядаць тэме вечарынкі. Далучыце да падрыхтоўкі фуршэту бабуль, матуль і старэйшых сястрычак. Арганізуйце конкурс на самае арыгінальнае навагодняе печыва.

*Памятайце:* усе пачастункі павінны быць такімі, каб іх было зручна браць з талерак, а пасля не хацелася пачысціць зубы і вымыць твар.

*Паштовы адрас беларускага Дзеда Мароза наступны: «Белавежская пушча. Рэзідэнцыя Дзеда Мароза. Дзеду Марозу».*

7 парада

### Арганізуйце працу Навагодняй пошты

Няхай у вас будуць дзве скрыні — адна для лістоў Дзеду Марозу, другая — для віншаванняў, адрасаваных вучням і настаўнікам. Выберыце «паштальёнаў», якія будуць разносіць пошту па кабінетах. Уявіце сабе, як гэта прыемна, калі проста на ўроку ў клас пастукаюць і скажуць: «Навагодняя пошта! Карэспандэнцыя для шостага «Б» і асабіста Таццяны Мікалаеўны!»

Удзельнікі навагодняй вечарынкі могуць атрымаць лісты, паштоўкі і бандэролі, адрасаваныя ім, падчас правядзення свята.

8 парада

### Новы год — час варажбы. Варажыце!

Варажыць можна на ўсім, чым хочаце. Можаце нават арганізаваць работу «Салона варажбы». Паперкі з прадказаннямі схавайце ў печыве і паветраных шарыках, на папяровых сняжынках або сцяжках. Не забудзьцеся пра народныя прыкметы — дзеля іх можна нават выйсці на марозную вуліцу, каб пакідаць боты ў снег або паабдымаць плот!

9 парада

### Запрасіце фатографа

Тое, што ў вашых тэлефонах ёсць камеры, яшчэ не азначае, што кожны з вас — выдатны фатограф і аператар. Калі вам хочацца, каб пасля мерапрыемства засталіся сапраўды прыгожыя фотаздымкі — паклапаціцеся пра прафесійнага фатографа або вядомага аматара, які ўмее рабіць добрыя фоткі і мае адпаведную тэхніку. Магчыма, нават у вашай школе знойдзецца такі чалавек.

10 парада

### Выключыце тэлефоны

Папярэдзьце бацькоў, колькі будзе доўжыцца ваша вечарынка, — і выключыце свае тэлефоны. Не «вісіце» над экранамі! У вас з’явіўся выдатны шанец правесці час з аднакласнікамі, патанчыць, павесяліцца, пасмяяцца, паразмаўляць. Пакіньце віртуальную прастору хаця б на некалькі гадзін! Дарэчы, калі падчас мерапрыемства ва ўсіх будуць выключаны тэлефоны, у сеціве гарантавана не з’явяцца кадры, на якіх вы выглядаеце не лепшым чынам.

***Памятайце: каб атрымаць асалоду ад свята, трэба быць яго актыўным удзельнікам!***



# Навагодняя праграма Марыны В.

*Аўтар рубрыкі Ліна Багданава*

*Мастачка Юлія Усава*

Усё пачалося 5 снежня, калі ў клас увайшла Алена Генадзьеўна і аб'явіла, што 30 снежня клас ідзе на навагодні спектакль у драматычны тэатр.

— Блі-і-і-н-н-н... — працадзіў скрозь зубы троечнік Губанаў.

— Становішча... — штурхнула яго ў бок Наташка Дудко, якая не церпіць падобных маўленчых зваротаў.

— Не пашанцавала... — закаціў вочы Ромка Сцепанюк.

Астатнія дваццаць тры аднакласнікі пагадзіліся з імі моўчкі, дапісваючы спехам кантрольную па матэматыцы.

А на перапынку разгулялася бура:

— Не жадаем у тэатр!

— Могуць жа ў людзей быць свае планы!

— Дасталі ўжо з гэтымі культурнымі мерапрыемствамі.

Алена Генадзьеўна ўмела стаяць на сваім:

— Значыць, вы аддаяце перавагу чарговаму школьнаму «аганьку» з самадзейнасцю? Не пытанне...

— Не! — піскнула выдатніца Нюша.

Большасць абураных паспяшаліся з ёй пагадзіцца: школьная самадзейнасць, на думку шасцікласнікаў, абсалютна не сумяшчальная з Новым годам.

— Выкруцімся, — шапнула ў спіну класнай Аленка Бойка, — у нас 31-е застаецца.

— Тачняк! — падкінуў уверх правы кулак Губанаў.

Калі б усё было так проста!

На 31-е бабуля запрасіла Марыну ў госці. Прыгатавала, маўляў, надзвычайны сюрпрыз.

— Ба-а, — заныла Марынка, — а ў другі дзень ніяк нельга?

— Ды ты што? — пакрыўджана працягнула ў трубку бабуля. — Я ж рыхтавалася...

***

— Гэта што ж атрымліваецца? — разважала Марынка, гартаючы старонкі дзённіка.

Атрымліваецца, што апошні дзень года павінен доўжыцца не менш як трыццаць адну гадзіну. Прычым, у дзённым рэжыме. Мяркуйце самі: з раніцы трэба прыняць удзел у генеральнай уборцы кватэры, затым упрыгожыць ёлку, затым дапамагчы ў кухні маме. Далей — паездка да бабулі, вечарынка дома ў аднакласніцы Аленкі і сямейнае свята. Прыклаўшы ўсе наяўныя матэматычныя таленты,



Марынка зусім знервавалася: выходзіла, што яе ўдзел у першай у жыцці самастойнай тусоўцы з аднакласнікамі можа доўжыцца не больш за паўгадзіны! Ды яна паспее хіба што распрануцца і зноў апрануцца.

— А як жа конкурсы? А дыскатэка? А «Максі-шоў»? А пельмені з заданнямі?..

***Першакласнік з яблыкам:***

— Асабіста я дома Новы год люблю! Па тэлеку смешныя кіношкі, мама ў кухні так загадкава ножыкам стукае. Тата пры справе (можна ў танчыкі разы два згуляць — ніхто не насварыцца). А ўжо раніцай 1 студзеня можна ехаць да бабулі. Яна ж нікуды не дзенецца! Так, і не забудзься пра ліст Дзеду Марозу. Верная штука: у мяне тры разы ўсё збывалася! Быў бы Новы год, а дзе яго адзначаць — справа 25-я, разумееш? Хацеў цябе яблычкам пачаставаць, але пакуль пісаў, яно скончылася. Даруй. З надыходзячым!

***Сімпатулька:***

— Як я цябе разумею! Уяві: у мяне амаль такая ж гісторыя! І падзяліцца няма з кім: адны глупства параяць, другія пакрыўдзяцца, трэція — засмяюць. Можа, хворай прыкінуцца? Але тады ўжо сапраўды на вечарынку не выпусцяць. Падобна на тое, што нашы праблемы растуць разам з намі. А можа, скласці чулівую гісторыю для бабулі? Яшчэ адну — для мамы. Нагаварыць цэлы мех. Як думаеш, пусцяць? Не, дзвюма гісторыямі не абыдзешся. Прыйдзецца трэцюю арганізаваць. Хоць навошта трэцюю, калі ўсё роўна дома застанешся… Я, здаецца, таксама буду дома. Неяк не свеціць мне вечарынка ў чужой кватэры з начным пераходам у сваю ўласную. Плюс бясконцае мыццё посуду. Можа, угавару дзяўчат выбрацца ў тэатр або кафэ. Дылема...

***Шкодная вычулка:***

— Гэта што ж робіцца на белым свеце?! Да васямнаццаці не дараслі, а ўжо самастойнымі быць хочуць! І думаць не смей! Толькі дома! Або ў бабулі. Начное вяртанне дадому тоіць у сабе тысячы непрыемнасцей. Ці не лепш вам з дзяўчынкамі сустрэцца раніцай?

***Прасунуты старшакласнік:***

— Сапраўды, не варта вам ладзіць начны шпацыр. І не факт, што бацькі дазволяць. Хутчэй за ўсё самі з'явяцца і забяруць вас дадому. Ці не занадта прывабны малюнак атрымліваецца? Ехідныя ўсмешкі, касыя погляды, шушуканне за спінай: ох-ах, запрасілі мамчыну дачку. Хоць і ў саміх той жа працяг. Карацей, ніякіх навагодніх праменадаў вам не свеціць. Давай па сутнасці: што на той вечарынцы чакаецца? Конкурсы-фокусы-варажба? А пры чым тут Новы год? У нас жа два тыдні вакацый наперадзе. Прыбіранне кватэры перанясі на 30-е, якраз пасля тэатра дасі рады — навядзеш парадак пад добры настрой. Раніцу з мамай на кухні правядзеш, як дарослая. Вечар падорыш любімым бацькам. Не прыйдзецца нікуды спяшацца, ні перад кім апраўдвацца. 1 студзеня бабулю ўзрадуеш. А вечарынку на шостае перанясіце — на Шчодры вечар. Калі нешта не задавальняе, графік можна адкарэкціраваць. Удачы!

# Шарыкі з паперы

**Спатрэбіцца:**
***папера (пажадана не больш за тры колеры), нажніцы, клей, шклянка, келіх ці кубак, аловак.***

Для такога шарыка можна выкарыстоўваць звычайную каляровую паперу ці кардон, а можна раздрукаваць прыгожыя ўзоры і арнаменты. З дапамогай, напрыклад, шклянкі чэрцім на паперы кругі. Іх павінна быць не меней за тры (чым больш кругоў, тым больш аб'ёмным і прыгожым атрымаецца шарык). Выразаем кругі, складваем напалам «тварам» унутр. Потым склейваем іх палавінкамі, чаргуючы колеры. У выніку павінна атрымацца гэткая «кніжачка». Перш чым склеіць дзве апошнія палавінкі, трэба замацаваць унутры амаль што ўжо атрыманага шарыка пяцельку са стужкі ці ніткі. Клей павінен добра высахнуць, таму лепей сушыць шарык у падвешаным стане, каб «пялёсткі» не дэфармаваліся.



**Спатрэбіцца:**
***аркуш кардона, нажніцы, клей, аловак, папяровыя сурвэткі, бусіны, стужкі, паеткі і шклянка.***

***Другі шарык можна зрабіць нібы прысыпаным сняжком.***

На кардоне з дапамогай шклянкі чэрцім алоўкам два кругі і выразаем іх. Склейваем, як і ў выпадку з папярэднім шарыкам, уставіўшы ў сярэдзінку пяцельку з ніткі ці стужачкі. Сурвэткі (дзве або тры) рвем на дробныя кавалачкі (памерам 1—2 сантыметры). Змазваем клеем адзін бок шарыка, прыклейваем да яго кавалкі сурвэткі так, каб надаць шарыку аб'ём (моцна не прыціскаем, але сочым, каб папера «схапілася»). Пасля шарык трэба на час пакінуць у спакоі — каб з гатовага боку клей высах. Калі шарык не дастаткова пухнаты, можна дадаць яшчэ крыху абрыўкаў сурвэткі.

Тое самае робім з другім бокам шарыка.

Пры дапамозе клею аздабляем шарык бусінамі, стужкамі, паеткамі. Сушым ужо падвешаным, каб не прымяць сурвэткі.

Такім вось чынам можна «заснежыць» не толькі шар, але і ёлачку, і зорачку, і зрабіць снежную бабу — усё залежыць ад таго, якую аснову вы зробіце з кардону.

# Не проста мыла

***Спецыяльна для чытачоў часопіса «Бярозка» я наведаў майстар-клас па вырабе мыла, а цяпер дзялюся ходам працы і сваімі ўражаннямі. Пачынай і не бойся: усё нашмат прасцей, чым здаецца.***

***Сяргей Грудніцкі***

**Інструменты:** *мікрахвалевая печ, драўляная або пластмасавая палачка, керамічны посуд, які не лопне ў мікрахвалевай печы, нож, дошка, форма (можна выкарыстоўваць сіліконавыя формы для выпечкі).*

**Матэрыялы:** *аснова для мыла, эфірны алей, натуральныя фарбавальнікі і араматызатары (вадкія).*

Для пачатку нарэж аснову для мыла на дробныя кубічкі, каб яны добра растапіліся ў печы. Пакладзі іх у посуд. Не кладзі занадта шмат — разлічвай на адну порцыю: столькі, колькі змесціцца ў прыгатаваную форму. Пастаў посуд у мікрахвалевую печ на 15 секунд. Калі мыла яшчэ не растала, паўтары дзеянне з печчу, але ўжо на 5 секунд.

Як толькі маса растане цалкам, дастань яе з печы і, хутка перамешваючы, дадай: 3 кроплі алею; 5 кропель араматызатара; некалькі кропель фарбавальніка (пакуль не атрымаецца патрэбны колер).









Адным рухам пералі сумесь у форму. Усё! Асноўная праца зроблена.

Пачакай пару гадзін — і прыступай да вымання гатовага мыла. Для гэтага націсні на цэнтр формы. Ні ў якім разе не выкарыстоўвай для вымання вострыя прадметы: так ты сапсуеш мыла. Гатова! Павер, блізкім будзе прыемна атрымаць пад ёлку такі падарунак: па-першае, ён зроблены тваімі рукамі, па-другое, гэта эксклюзіўная рэч, па-трэцяе, яна нерэальна смачна пахне.

***Майстар-клас праводзіла Ганна Вакуліч***

# Запытай у будучыні!

***Мы, прывіды, існуем па-за часам і прасторай, і кожны дзень з мінулага і будучыні бачым як на далоні! Але вось што дзіўна: многія людзі таксама ўмеюць прадбачыць будучыню! Нават і ты, дружа! Проста пакуль што не ведаеш, куды глядзець. Але я навучу…***



## СЕМ ДРАЎЛЯНЫХ ПРУТКОЎ

Тры пруткі павінны быць памерам з мезенец, тры — як сярэдні палец, а сёмы — даўжынёю з далонь.



*Мастачка Юлія Усава*

Самы доўгі пруток пакладзі да ног, астатнія трымай над ім, перабіраючы іх пальцамі. Засяродзься на пытанні, якое цікавіць. Калі яно будзе сфармулявана, перакладзі ўсе шэсць пруткоў у правую руку. Цяпер наўздагад левай рукой выцягні адзін пруток, астатнім дай зваліцца пад ногі. І паглядзі, як яны ляглі. Калі доўгіх пруткоў больш, чым кароткіх, тады адказ на пытанне «так»; калі больш кароткіх — адказ «не». Калі кароткіх пруткоў больш — варажба скончана, а калі менш — працягвай разглядаць пруткі, якія зваліліся. Калі адзін з іх трапіў на самы доўгі — тое, што задумана, ажыццявіцца лёгка; калі адзін з пруткоў не крануўся зямлі, а зваліўся на астатнія — давядзецца выкарыстаць вынаходлівасць, нейкія нестандартныя метады, каб задуманае ажыццявілася; калі ўсе пруткі паказваюць канцамі на самы доўгі — ты адыграеш у выкананні задуманага важную ролю; калі ніводзін з пруткоў на самы доўгі не паказвае — ад цябе нічога не залежыць.

## ЛІЦЦЁ ВОСКУ

Для гэтай варажбы бяруць васковую свечку (можна і парафінавую) і, пакрышыўшы на дробныя кавалкі, кладуць у металічную лыжку, якую награваюць, пакуль кавалкі не ператворацца ў вадкасць. Потым бяруць тазік з вадой і адным духам выліваюць у яе змесціва лыжкі. Па атрыманай «постаці» варожаць. Вялікую ролю тут адыгрывае фантазія. Адны бачаць у безаблічнай масе воску аўтамабіль, другія — фігуру чалавека, трэція — дом, чацвёртыя — цягнік і г. д.



*Мастачка Юлія Усава*

## ВАРАЖБА ПА ЦЕНЯХ

Ліст паперы (лепш за ўсё газета) камячыцца рукамі (толькі не ператвараецца ў нешта накшталт шара), кладзецца на дно перакуленай талеркі і запальваецца. Тое, што застаецца, не варушачы і не руйнуючы формы, падносіцца да сцяны супраць крыніцы святла, каб разглядзець цень, па абрысах якога можна меркаваць пра будучыню.

# Рукавічка для ёлачкі

Любы аматар творчасці Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча на пытанне: «Ці ж Бог даў беларусу дзюбу, каб ён пішчаў?» — адкажа адмоўна. Дзюба нам дадзена, каб «лушчыць арэхі ды цалавацца!» Рукі нам таксама дадзены не для таго, каб яны проста па баках матляліся, а каб ствараць сапраўдныя дзівы, здольныя цешыць цябе і тваіх блізкіх.

Паспрабуем зрабіць арыгінальную цацку, якую можна павесіць на галінку каляднай ёлкі.




***Фота 1.*** *Пры падборы матэрыялаў найперш кіруйся фантазіяй. Мне спатрэбіліся: невялікі ліст фетру (раю купляць тоўсты, ліста памерам 20х20 см хопіць), стужачкі-вяровачкі, пацеркі, ніткі мулінэ (чырвоныя і чорныя), іголка з вялікім вушкам, нажніцы, кавалачак мыла і добры настрой.*




***Фота 2.*** *На фетры малюем мылам контур рукавічкі. Памер адвольны. Раю выкарыстоўваць менавіта мыла, паколькі заўсёды знойдзецца кавалачак дома, а калі контур атрымаўся не зусім удалы, мыла лёгка выціраецца.*







***Фота 3-4.*** *Выразаем вострымі нажніцамі рукавічку. Прыкладваем выразаную фігурку да кавалка астатняга фетру, абводзім мылам па контуры, атрымліваем люстраны адбітак, выразаем. Маем цяпер контуры-блізняты.*










*Фота 5-7, 8. Самая творчая частка працы! Бяром адзін контур і аздабляем яго пры дапамозе стужачак, вяровачак, пацерак, вышыўкі. Тут ужо ажыццяўляй свае самыя розныя ідэі. Прышывай аздобы, вышывай, не клапоцячыся пра левы бок, бо ён застанецца па-за ўвагай. Галоўнае, каб «твар» цацкі выглядаў акуратна.*










*Фота 9, 9а. Калі з упрыгожваннямі справа скончана, можна смела сшываць палавінкі. Робім гэта акуратна, каб контуры палавінак судакраналіся роўненька, без выгінаў. Я карысталася швом, што паказаны на малюнку 9а.*




*Фота 10. Не спяшаемся сшываць ражкі палавінак да канца! Пакідаем невялікую дзірачку, праз якую зможам напхаць унутр нешта, што створыць аб'ём. Гэта могуць быць дробныя непатрэбныя кавалачкі тканіны ці сінтэпон, як у маім выпадку. Акуратна размяркоўваем напаўняльнік унутры рукавічкі. Сшываем палавінкі да канца.*

*Фота 11-12. Прышываем да рукавічкі вяровачку. Цяпер можна ганарыцца сабой і сваімі залатымі рукамі, а потым, канешне, пераходзіць да галоўнага: вешаць цацку на ёлку або схаваць у прыгожую абгортку з мэтай павіншаваць дарагога табе чалавека з Калядамі і Новым годам.*







Дзякуй за супрацоўніцтва! Няхай маленькія цуды множацца і ператвараюцца ў вялікія!

Са святамі!

***Аліна Агрэніч***

# Анёлак і ёлачка



**_Спатрэбіцца:_** _**медны дрот даўжынёй 120—140 см, бісер (белы, залаты ці срэбраны), адна вялікая бусіна, бусінкі меншага памеру аднаго ці двух колераў.**_




Спачатку робім німб. 25—30 бісерынак нанізваем на дрот, пераганяем на сярэдзіну, апошняй нанізваем вялікую бусіну. Другі канец дроту працягваем у яе насустрач першаму, зацягваем.




Далей робім крылцы па схеме. На верхнюю частку спатрэбіцца 9 бусінак, на ніжнюю — 8.




Потым нанізваем дзве бусінкі меншага памеру, другі канец працягваем у іх насустрач першаму, зноў зацягваем. Нанізваем так яшчэ дзве бусінкі і замацоўваем, каб яны сталі на адзін узровень.




Працягваем, робім цела. Нанізваем 3 бусінкі на адзін канец дроту, другі канец праводзім насустрач. Паўтараем. Вельмі важна моцна зацягваць дрот, каб пляценне было тугім і аб'ёмным.




Цяпер рукі. Нанізваем 5 бусінак, прапускаем дрот праз 4, пачынаючы з передапошняй. З другога боку робім тое самае.




Асноўную частку працягваем рабіць па схеме. Памер анёлка неабмежаваны, але лепш скончыць ланцужком з 9—10 бусін, інакш цацка будзе непрапарцыянальнай і занадта цяжкай. Канцы дроту трэба замацаваць за дрот унутры, рэшткі абрэзаць.




Да бісернага німба можна прывязаць каляровую стужачку ці моцную нітку, каб павесіць анёлка на ёлку.

***Верш Раісы Кудашавай «У лесе нарадзілася елачка» ўпершыню быў надрукаваны ў 1903 годзе ў дзіцячым часопісе «Малютка». А праз два гады быў пакладзены на музыку кампазітарам Леанідам Бекманам. І вось ужо другое стагоддзе гэтую песеньку з задавальненнем спяваюць усе дзеці на ўсіх навагодніх ранішніках.***



Падобным чынам можна зрабіць ёлачку, пачаўшы з вярхушкі, на якую спатрэбіцца 5 бусін чырвонага, залатога ці срэбранага колераў, а потым працягнуць чаргаваннем зялёных бусін з рознакаляровымі.

Чытаем ікону

# Мікола



Аднойчы Свяціцель Мікалай трапіў у турму за тое, што ў прысутнасці імператара штурхнуў ерэтыка Арыя, які сваімі гаворкамі прыніжаў годнасць Ісуса Хрыста. Зразумела, што ў Мікалая забралі ўсе атрыбуты яго свяціцельства — амафор і кнігу Евангелле. Але ноччу ў турме падчас малітвы яму з’явіліся Ісус Хрыстос і Божая Маці, якія вярнулі амафор і Святое Евангелле. Раніцай, убачыўшы ў руках Міколы гэтыя рэчы, усе зразумелі, што ён не вінаваты і павінен заставацца архіепіскапам.



*Мітра — галаўны ўбор, які сімвалізуе карону — знак высокага служэння.*



*Жэст дабраславення — заклік Боскай дапамогі на ўсіх, хто моліцца перад вобразам Свяціцеля Мікалая.*



*Паліца — сімвал духоўнай зброі Свяціцеля. Яна паказвае, што ўсялякія беды будуць пераможаны пры дапамозе малітвы.*



**Мікола, 1751 (Манаграміст М. В.). Нацыянальны мастацкі музей.**



*1751 М. В. — год, у якім беларускі іканапісец стварыў гэты вобраз. Хутчэй за ўсё, прозвішча і імя мастака пачыналіся з літар «М» і «В».*



*У левай руцэ Свяціцеля Мікалая — Евангелле, у якім расказваецца пра нараджэнне, жыццё, цуды, смерць і ўваскрасенне Ісуса Хрыста.*



*Амафор — абавязковая частка адзення епіскапа. Выглядае як доўгая шырокая стужка з выявамі крыжоў, якая агінае шыю і спускаецца адным канцом на грудзі, другім — на спіну. Амафор сімвалізуе духоўныя цяжкасці, якія бярэ на сваё плечы епіскап.*

Святы Мікалай Цудатворац — адзін з самых паважаных святых у хрысціянскім свеце. Ён нарадзіўся ў 270 годзе ў мястэчку Патары ў Малой Азіі і ўжо з дзяцінства меў намер прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу.

Праз пэўны час Мікалай узначаліў царкву ў мястэчку Міры (цяпер гэты горад называецца Дэмрэ і знаходзіцца на тэрыторыі сучаснай Турцыі). Мікалая вельмі любілі людзі: ён быў добрым, чулым, справядлівым і спагадлівым — ніводнае прашэнне да яго не заставалася без адказу. Яшчэ пры жыцці ён праславіўся цудамі. Сваёй гарачай малітвай да Хрыста выратаваў горад Міры ад жудаснага голаду, дапамог маракам, якія танулі, вызваліў са зняволення несправядліва асуджаных, зрабіў шмат іншага. Дажыў да глыбокай старасці і памёр прыкладна ў 351 годзе.

***Дзмітрый Салодкі,***
***навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея***

## Малітваслоў



***Пакажы гэтую цудадзейную малітву сваім бацькам. Няхай яны ўключаць яе ў сваё малітоўнае правіла. Так ты на сабе адчуеш вялікую сілу бацькоўскай малітвы і дапамогу Бога.***

***МАЛІТОЎНАЕ ЎЗНАШЭННЕ БАЦЬКОЎ ЗА ДЗЯЦЕЙ СВАІХ***

*У імя Айца і Сына, і Святога Духа. Амінь.*
*Госпадзі Найдабрэйшы, ад Якога сыходзіць усялякі дар і ўсялякае дабро, да Цябе малюся пра дзяцей маіх (імёны), якіх Твая дабрадайнасць мне падарыла. Ты даў ім жыццё і душу несмяротную, узрадзіў іх Святым Хрышчэннем, каб жылі яны па волі Тваёй і наследавалі Царства Нябеснае.*
*Захавай іх дабрынёй Тваёй да канца жыцця, асвяці іх ісцінай Тваёй, садзейнічай выхоўваць іх у славу імя Твайго і на карысць бліжнім. Дай і мне, Госпадзі, для гэтага цярпенне і сілу.*
*Прасвяці іх Тваёй мудрасцю, каб любілі Цябе ўсёй сваёй думкай. Насадзі ў сэрцы іх страх і агіду да ўсялякага беззаконня, упрыгож іх душы цнатлівасцю, працай, любоўю, доўгацярпеннем і ўсялякім сумленнем, адмяжуй іх Тваёй праўдай, акрапі іх расою Тваёй міласці, няхай будуць у дабрадзейнасці і святасці, няхай будуць у добрай волі Тваёй і набожных людзей.*
*Ангел Святы няхай зберажэ іх юнацкасць ад мітуслівых думак, ад спакусаў свету гэтага, ад усялякіх хітрых паклёпаў. Госпадзі, калі і саграшаць калі перад Табою мае дзеці (імёны), не адвярні твар Твой ад іх, але будзь міласцівы, засмуці іх сэрцы, не пазбаў іх зямных Тваіх даброт, але падай ім усё і дай ім здабыць шчаслівую вечнасць.*
*Уратуй іх ад усялякіх бедаў і напасцяў, ад нахабнай смерці, ад смутку і хваробы, асяняй іх да канца жыцця Тваёй міласцю.*
*Госпадзі Найдабрэйшы, яшчэ малюся Табе, дай мне радасць і весялосць за дзяцей маіх (імёны), дай мне з імі паўстаць на Страшным Судзе Тваім з несарамлівай смеласцю сказаць: «Твая я і дзеці мае, якіх Ты мне падарыў». І разам з імі праслаўлю імя Тваё Святое Айца і сына і Святога Духа. Амінь.*

Святочныя дзеі

# Батлейка



Батлейка — гэта і назва беларускага народнага тэатра лялек, які ладзіць пастаноўкі на біблейскія тэмы, і драўляная скрыня з лялькамі. Назва паходзіць ад горада Віфлеем — Betleem, дзе нарадзіўся Хрыстос. І сама Батлейка нарадзілася якраз на Раство Хрыстова, калядныя святы. Скрыня нагадвае дом або царкву, сцэна — балкон. У батлеечных спектаклях можа быць задзейнічана каля сарака персанажаў. Лялькі можна вырабляць з дрэва і паперы, вопратку — з паперы і тканіны, вусы і валасы — з аўчыны і лёну. Сюжэты для спектакляў можна пашукаць у спецыяльных крыніцах. Зацікавіўся, дружа? Мы табе прапануем тут колькі мадэляў герояў і схему батлейкі. Каб карыстацца, трэба павялічыць.

***Чаму мы любім упрыгожваць навагоднюю ёлку бліскучай срэбнай мішурой? Згодна з легендай, жыла калісьці добрая, але бедная жанчына, якая аднойчы, каб хоць неяк упрыгожыць для сваіх дзетак калядную ёлку, не маючы ніякіх цацак, проста памалілася. І па просьбе Хрыста павукі аплялі дрэўца павуціннем, а сам Хрыстос ператварыў яго ў срэбнае.***

# Што ляжыць у мяшку Дзеда Мароза?



*Журналісцкае расследаванне*

***Спачатку мы хацелі расказаць усім пра тое, як плануюць правесці навагоднія святы нашыя аднагодкі. І нават збіраліся параўнаць іх планы з планамі матуль і бабуль у гады дзяцінства тых. Але адказы хлопцаў і дзяўчат крыху расчаравалі — дыскатэка, тэатр, вечары на лецішчы (на кватэры сяброў, у клубе, інтэрнаце… як прынята казаць — у асартыменце), шпацыр па горадзе, навагоднія сэлфі… Нічога новага. Без фанатызму. Матуль і бабуль вырашылі не турбаваць: калі ў сучасных падлеткаў на Новы год не хапае фантазіі, тады што казаць пра эпоху дэфіцыту і бацькоўскай строгасці!***

Засумавалі. Сядзім сабе моўчкі на лаўцы ў школьным калідоры. Мінаюць старшакласнікі, праплываюць настаўнікі, дзелавіта маршыруюць завучы. Гэтыя заўсёды кудысьці спяшаюцца. Падскокваючы, імчацца першаклашкі.

— І куды імчацца? — млява прабубнеў адзін з нас, Паша. — Энэрджайзеры нашага свету. Вечныя рухавікі. — Куды?! — падхапіў пад руку тоўсценькага малога, пасадзіў побач з сабой. — Я пытаюся: куды ляцім?

— Ну… — сумеўся нявольнік і заёрзаў на лаўцы, спрабуючы вырвацца на свабоду.

— Стоп, машына! Каліся, што наважыліся зрабіць?

Малы адвярнуўся, моцна сціснуўшы вусны. Дзяліцца сакрэтам ён не збіраўся.

— Адпусці ты яго, — папрасіла Валерыя. — Вунь як надзьмуўся, зараз заплача.

— Ляці, родненькі! — злёгку падпіхнуў хлопчыка Паша.

І павярнуўся да Валерыі:

— Слухай, а давай за ім прасочым. Адчуваю, у іх адбудзецца штосьці незвычайнае. Сама падумай, палова на другую — усе нармалёвыя першаклашкі дома сядзяць, а гэты…

Дзед Мароз прыходзіць толькі да паслухмяных дзяцей. А ўсе астатнія лічаць, што яго няма…




— А ты ведаеш, што ў нас тры прадлёнкі працуюць? — хмыкнула Валерыя.

— Ах, вось у чым справа… Вось я і кажу: будзе штосьці цікавенькае. Айда за мной.

І мы пайшлі. Праз дзве хвіліны апынуліся ў прадлёнцы. Дзеці збіраліся на вуліцу. Дапамагалі адзін аднаму апранаць курткі і зашпільваць боцікі. Наш нядаўні нявольнік мітусіўся каля паліцы з малюнкамі.

— Задумаў штосьці.

— Хто яго ведае…

— Вы чаго, дзеці? — звярнулася да нас выхавальніца.

— Мы… а мы з энергапатруля, — зарыентаваўся Паша. — Будзем зараз у вас вокны правяраць і лямпачкі. Ці абклеены і ці чыстыя.

— А мы гуляць збіраліся — рэжыму прытрымліваемся. Самі адолееце?

— Безумоўна! А ключ на вахту аднясём. Пойдзе?

— Эй, энергапатруль, — шапнула Валерыя на вуха Пашы, — ты з чаго пачынаць збіраешся? З лямпачак ці рам? А можа, адразу і паклеім?

— Т-ссс… — мы тут ужо здымалі паказанні. Учора. Я гэта для адмазкі прыдумаў, каб застацца. Давай паглядзім, што тут наш «энэрджайзер» схаваў. Ну-ка…

У стосе папер на тумбачцы ляжала тэчка. На сінім глянцавым баку прыгожым спраўным почыркам надпіс: «Ліст да Дзеда Мароза».

— Вось яно што… — задумліва прамармытаў Паша і адкрыў тэчку.

— Думаеш, прыстойна ў чужых паперах лазіць? — засумнявалася Валерыя.

— У нас, між іншым, расследаванне… і потым, гэта не чужыя паперы. Нашыя…

— У тым сэнсе, што агульнашкольныя? Але…

— Т-ссс… глядзі…

— Ой… — Валерыя ўбачыла свой малюнак, зроблены ў прадлёнцы гадоў восем таму.

— А гэта мой… — кампаньён паказаў крывы ровар з лукам замест руля. — А гэта Ванін. Ён у Дзеда Мароза прыстаўку для гульняў прасіў. А намаляваць у яго не атрымалася, таму напісаў і сябе намаляваў.

— Колькі ж тут нашых жаданняў…

— І большасць з іх здзейсніліся. Вось і не вер у навагоднюю казку.

— А як жа…

— А давай у нашай выхавальніцы запытаем.

Пасля пенсіі Зінаіда Паўлаўна засталася працаваць у школе вахцёркай. Цыравала школьнікам рукавіцы, разносіла па класах згубленыя вучнямі рэчы, дапамагала рашаць цяжкія задачкі і пераплятала растрапаныя дзявочыя коскі.

— Была класнай маці, а стала ўсеагульнай бабуляй! — засмяялася яна ў адказ на наша пытанне. — Гэта мне таксама падабаецца. А наконт навагодніх жаданняў,

так і быць, раскрыю вам тайну. Вы ж маленькія ўсе ў Дзеда Мароза верыце. Ну, мы з бацькамі і дамовіліся: вы малюнкі з пажаданнямі ствараеце, а я паціху змест да іх ведама даводжу (быццам Дзеду Марозу лісты адсылаю), а там — у каго на што фантазіі і грошай хопіць. Адна дзяўчынка папрасіла зрабіць яе негрыцянкай. А Ромка з вашага класа маленькага дыназаўрыка прасіў. Памерамі з гараж на лецішчы — ён збіраўся там дрэсіраваць падарунак. Некаторыя браціка або сястрычку замаўлялі. Некаторыя шчаня або чарапаху. Адзін хлопчык прэзідэнтам захацеў стаць. А Клава, што цяпер у 11 «А», прасіла зрабіць шчаслівы канец у серыяле. Цяпер ужо і не ўспомню, што за карціна была…

— Супер-ідэя! Апытаем усіх запар. Задаём адно пытанне: які самы важны падарунак ты прасіў у Дзеда Мароза?

— А можа яшчэ запытаць: які самы незвычайны падарунак прасілі ў Дзеда Мароза знаёмыя табе людзі? Так цікавей атрымаецца.

Чаго толькі не замаўлялі зімоваму чараўніку дзеці! І плэеры, і снегаходы, і вакацыі на Мадагаскары, і знікненне рабаціння на шчоках, і новую маці, і вядро трускалак.

*На астравах Мікранезіі Новы год адзначаюць, як і ў нас, — 1 студзеня. Але ў гэты дзень жыхары астравоў атрымліваюць не падарункі, а… новыя імёны, і шэптам паведамляюць іх самым блізкім. Астатнія родзічы ў гэты час гучна б'юць у барабаны, каб злыя духі не падслухалі.*

Паша прынёс сваю гісторыю. У час вайны яго бабуля, няцямлівае чатырохгадовае дзіця, папрасіла ў Дзеда Мароза мяшок бульбы. Дзед Мароз жаданне выканаў, чым выратаваў сям'ю з трох чалавек ад голаду, а бабулю яшчэ і ад хваробы. Бабуля тады прастудзілася, лекаў не было, але яна дыхала парай ад варанай бульбы — і вылечылася.

А сусед з кватэры насупраць падзяліўся сакрэтам свайго сына (цяпер Яўгену амаль трыццаць): той доўга верыў у існаванне Дзеда Мароза і пісаў яму лісты, выстаўляючы ў вокны. Аднойчы ён распавёў пра ўсё гэта хлопцам у двары. Тыя пачалі з яго смяяцца: бабуліны казкі, дзядуліны падказкі! А маці, супакоіўшы ўвечары хлопчыка, сказала: «Ты на іх не сярдуй. Гэта яны ад зайздрасці смяюцца. Бо Дзед Мароз прыходзіць толькі да паслухмяных дзяцей. А ўсе астатнія лічаць, што яго няма. Радуйся, што да цябе ён прыходзіць. І вер. Ён яшчэ нікога і ніколі не падводзіў». І Яўген верыў.

А ты — верыш? Мы разам будзем верыць, што твае жаданні здзейсняцца. Бо фармулёўка жадання — першы крок да яго здзяйснення.

З Новым годам, дружа!




Подпіс рэдактара

______________

***Валерыя РАМАНЧУК і Павел АРОДЗЬ***
***пры дапамозе Ліны БАГДАНАВАЙ,***
***СШ № 12, Гродна***

***Мастачка Юлія Усава***



***Валерыя і Павел атрымліваюць ад рэдакцыі навагоднія падарункі — як аўтары года!***

# Адзнакі ў школе — не галоўнае

*Інтэрв'ю. Вельмі сур'ёзнае*



*Анатоль Антонавіч Каціла, дырэктар сярэдняй школы № 66 Гомеля.*

**— Кім вы марылі стаць?**

— У мяне не было пэўнай мары. Разуменне таго, што трэба выбіраць нейкую прафесію, прыйшло пазней, дзесьці пад заканчэнне школы. Я не імкнуўся стаць кімсьці канкрэтна, у мяне было вялікае жаданне вывучаць гісторыю. І так атрымалася, што я ажыццявіў яго, паступіўшы на гістфак. Мне падабалася вывучэнне гісторыі не толькі таму, што гэта навука пра мінулае. Я даўно зразумеў: гэта навука жывая заўсёды. Гэта навука не пра мінулае, а шмат у якой ступені пра будучыню. Таму што калі чалавецтва гісторыю сваю ведае, гэта дапамагае яму пазбегнуць цэлага шэрагу памылак, якія лепш не здзяйсняць. Гісторыя як навука патрабуе выкладчыкаў, і, напэўна, сам лёс прывёў мяне ў тую школу, дзе я працаваў настаўнікам пятнаццаць гадоў, да прыходу ў школу № 66, дзе я цяпер працую. Між іншым, не столькі ў якасці кіраўніка, колькі зноў як настаўнік. Мне падабацца выкладаць гісторыю.

**— Ці добрым вучнем вы былі?**

— А што такое «добры вучань»? У нас лічыліся надзвычайнымі выпадкамі парушэнні, якія ў сучасных установах адукацыі калі не лічацца нормай, то, прынамсі, здараюцца досыць часта. Казаць пра тое, што ў мяне ці маіх аднакласнікаў былі нейкія сур'ёзныя праблемы, нельга. Так, я не быў узорным вучнем, але я быў цалкам нармальным навучэнцам і не прыносіў нейкіх асаблівых клопатаў настаўнікам, бо адных я паважаў, а другіх любіў, паколькі і яны ставіліся да мяне вельмі добра, нягледзячы на адзнакі. Ацэнка ведаў і стаўленне да чалавека — гэта розныя паняцці. Ты можаш быць паспяховым вучнем, але гэта яшчэ не значыць, што ты добры чалавек. Хацелася б, каб вучні разумелі, што ў школе галоўнае не адзнакі. Далёка не ўсе, хто вучыўся вельмі паспяхова, дасягнулі якіх бы там ні было вынікаў у прафесійнай кар'еры, бізнесе, творчым прызнанні. Галоўнае, да чаго любы вучань павінен імкнуцца, — навучыцца нармальным стасункам у калектыве. Наогул, я лічу, што школа ў першую чаргу створана для зносін, паколькі чалавек — істота сацыяльная, і ў адзіноце яму жыць вельмі цяжка.

**— Якая яна, сучасная школа?**

— Раней, калі нам хацелася прачытаць нешта акрамя падручнікаў, трэба было ісці ў бібліятэку. Цікавых кніг не хапала, неабходна было стаць у чаргу на атры-

манне, альбо ісці ў чытальную залу. Цяпер такой праблемы няма. Але і сучасная школа супярэчлівая. Шмат у чым. З аднаго боку, разнастайна вучыцца стала прасцей, але доступ да інфармацыі дазваляе вучням адчуваць сябе не зусім адказнымі. Гэта замінае самастойна думаць. Калі навучышся думаць, а не пазычаць веды, зробіш маленькую, але сваю «навуковую працу», карысці будзе значна больш. І гэта потым вельмі цэніцца ва ўніверсітэце, дзе даецца пэўны касцяк інфармацыі, астатняе ж трэба шукаць самому. Вучань прыходзіць у школу, каб навучыцца думаць і дзейнічаць самастойна. Якія ў яго будуць адзнакі — гэта ўжо іншае пытанне. Але я мяркую, што ўсё ўзаемазвязана: навучышся думаць самастойна — будзеш атрымліваць высокія адзнакі.

**— Якія перспектывы адкрываюцца перад выпускніком школы?**

— Перспектывы гэтыя залежаць ад таго, як выпускнік вучыўся. Вельмі часта здараецца так: быццам і адзнакі высокія, але адсутнасць умення працаваць і думаць самастойна прыводзіць да таго, што на ЦТ, на жаль, вучні не могуць пацвердзіць свае школьныя веды. Гэта адбываецца таму, што толькі 15—20 % пытанняў — простыя, якія не трэба абдумваць і аналізаваць. Усё астатняе патрабуе аналізу і разважання. І адказваць на пытанні тэста па прынцыпе гульні «Марскі бой» — не атрымліваецца. Таму і ўзнікла пытанне пра нізкія прахадныя балы ў ВНУ, таму і неабходна іх павысіць. Гэта аб'ектыўна, таму што нельга, каб вышэйшую адукацыю атрымлівалі ўсе людзі.

Самае галоўнае, што перспектывы адкрываюцца ўжо з пятага класа. Калі вучань пачынае нечым цікавіцца і займаецца гэтым паглыблена. Спектр магчымасцей — велізарны, але выбраць гэтыя магчымасці і рэалізаваць іх можна толькі пры адной умове — калі кожны навучэнец пачынае вызначаць загадзя, чым ён будзе займацца і што ён у гэтым жыцці хоча атрымаць. Я б наогул параіў усім першай атрымліваць такую прафесію, якая магла б іх пракарміць.

**— Якой вы бачыце школу заўтрашняга дня?**

— Я лічу, што школа будзе нацэлена не на ацэнку вучняў, а на комплексную ацэнку магчымасцей, здольнасцей, узроўню ведаў. Ну, і спадзяюся, што статус педагога будзе павышацца. Педагог будзе ў першую чаргу вучыць і выхоўваць. Я спадзяюся, што іншай будзе школа і ў адносінах да бацькоў: будзе складаць з імі адно цэлае. Існуюць бацькоўскія камітэты, бацькоўскія і апякунскія саветы — гэта ўжо значны крок. Бацькі прымаюць удзел у жыцці школы — гэта выдатна. Роля іх надалей узрасце — і гэта будзе правільна, бо яны такія ж удзельнікі выхаваўчага і навучальнага працэсу.




Подпіс рэдактара

______________

***Сяргей ГРУДНІЦКІ,***
***11 клас, СШ № 66, Гомель***



***Сяргей Грудніцкі ўзяў інтэрв'ю ў дырэктара школы, за што атрымаў ад рэдакцыі падарунак. А ты, дружа, ужо рыхтуеш свой допіс: рэпартаж з апошняй парты або нарыс пра любімага настаўніка? Мы чакаем!***

# Падарожжа

## «У ЗАЧАРОВАНЫМ ЦАРСТВІ»

Акунаемся ў таемныя старонкі звычайнага і вучымся бачыць новае ў штодзённым. Напрыклад, хмары. Багдановіч здолеў разглядзець у іх: а) павукоў, што плятуць павуціну дажджу; б) закаханых, якія не могуць быць разам; в) поле бітвы, дзе маланка — агністы меч, гром — удары, дождж — халодныя бічы крыві.

А што гэта за царства? Хіба не наша Радзіма? Праз кожны радок вершаў мы можам адчуваць любоў Максіма Багдановіча да зямлі, на якой ён нарадзіўся. Паэт заклікае нас любіць, шукаць, захапляцца, уяўляць і здзіўляцца.

*Песьня рвецца і ліецца*
*На раздольны, вольны свет.*
*Але хто яе пачуе? —*
*Можэ, толькі сам паэт.*

## «ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

Толькі шэсць вершаў — цяжкія і сумныя вершы — піша пра сваю хваробу:

*Ня кувай ты, шэрая зязюля,*
*Сумна ў бары;*
*Мо і скажэш, што я жыці буду,*
*Але лепш не гавары.*

Максім Багдановіч ведаў, што шлях, на вялікі жаль, яму адмераны кароткі.

*Сэрца ные, сэрца кроіцца ад болю.*
*Ой, пайду я с цеснай хаты ў тое поле…*

Усе перажыванні, уражанні ён пераносіў у свае творы.

*І снуюцца сумна ў сэрцы,*
*Уюцяцца адгалоскі*
*Горкай песні, простай песні*
*Беларускай вёскі.*

Малюнак вокладкі са стылізаванымі кветкамі абраў Вацлаў Ластоўскі, адсюль і з'явілася назва «Вянок».

У Вільні на пачатку 1914 года, у друкарні Марціна Кухты, пры грашовай падтрымцы Магдалены Радзівіл, тыражом 2 000 асобнікаў выдадзены адзіны прыжыццёвы зборнік твораў Максіма Багдановіча «Вянок».

# па «Вянку»

120 старонак
92 вершы
2 паэмы

## «СТАРАЯ БЕЛАРУСЬ»

*І людзі зьведаюць аб прадзедах сваіх*
*Аб горы, радасьцях і аб прыгодах іх,*
*Каму маліліся, чаго яны шукалі,*
*Дзе на глыбокім дне іх крыюць*
*мора хвалі.*

Пераносімся ў іншае стагоддзе: вобразы летапісца, ткачых, перапісчыка, доктара. Каб на некалькі хвілін акунуцца ў мінулае, захапіцца прыгажосцю старой Беларусі.

У «Вянок» не ўвайшоў раздзел «З чужое глебы», куды паэт меў намер змясціць пераклады з нямецкай, французскай, украінскай.

Першапачатковы рукапіс меў назву «Кніжка выбраных вершаў».

## «МЕСТО»

Якому гораду Максім Багдановіч прысвяціў нізку вершаў?

*У грудзі кволыя запала,*
*Дачка каменняў, места мне.*
*Пачую я тэй іскры жала*
*І верш аб месьце з сэрца мкне.*

Вільня… Музей братоў Луцкевічаў — «Слуцкія ткачыхі». Сустрэча з Вацлавам Ластоўскім і Браніславам Эпімах-Шыпілам. Менавіта ў Вільні быў надрукаваны «Вянок». Але ці сапраўды гэты горад прыгожы? Ці сапраўды ён цікавы, як скрынка цукерак? Ці не здаюцца мілымі ціхія завулкі?

*Ад сьпёкі пышуць дахі і асфальт,*
*На вуліцы ўецца пыл і гукаціць фурманка;*
*«Каробушку» пяе дзіцячы альт,*
*І надрываецца абрыдлая шарманка.*

Верш «Змяіны цар» напісаны паводле народнага падання, змешчанага бацькам паэта ў кнізе «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў».



Раманс «Зорка Венера» ўпершыню быў апублікаваны менавіта ў «Вянку».

Эпіграфам да верша «Маёвая песня» стаў паэтычны радок «Музыка перш за ўсе…» французскага паэта Поля Верлена.

## «ДУМЫ»

Новыя, цікавыя і захапляльныя вобразы, праз якія мы можам даведацца аб хваляваннях душы Максіма Багдановіча. Паэт параўноўвае беларускі народ з таполяй, пакаленні — з яе галінамі, але вось ужо праз некалькі старонак — з дыяментам. Багдановіч расказвае нам тое, як ён бачыць жыццё і як яго трэба пражыць:

*Жывеш ня вечна, чалавек, —*
*Пражыві-ж у момант век!*

У верш «Вечар» паэт увёў два радкі са знакамітай народнай песні «А дзе ж тая крынічка…», якую любілі спяваць яго бацька і цётка Магдалена.

## «ВОЛЬНЫЕ ДУМЫ»

Творца з незвычайнай адкрытасцю і шчырасцю выказвае нам усё тое, што хвалявала творчую душу; тое, аб чым баяліся весці гаворку многія людзі. Вершы Багдановіча схіляюць да разваг пра ўсё тое, аб чым мы думаць не хочам, або нам няма з кім гэтыя пытанні абмеркаваць. А яшчэ вершы Багдановіча вучаць нас думаць і не саромецца сваіх пачуццяў і поглядаў.

*Я думы, ня скутыя путамі,*
*Тут перэд вамі выважу,*
*А проці ганеньня кажу:*
*Хваробы лечуць і атрутамі.*

***Французскага Дзеда Мароза завуць П'ер Наэль. Ездзіць ён на восліку, пакідае дзецям падарункі ўнутры чаравікаў. А французскія дзеці яму свае падарункі рыхтуюць — трошкі саломы для восліка.***

Вялікі ўплыў на паэта аказала кніга яго бацькі «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў».

Максім Багдановіч ацэньваў свой зборнік: «Кніжка гэта зусім маладая; вершы яе напісаліся з паловы 1909 да паловы 1912, калі мне было 17—20 год. Але ў ёй усё ж такі ёсць і творчасць, і натхненне, і сур'ёзная праца».

## «СТАРАЯ СПАДЧЫНА»

Паэт сам выбіраў вершы для кожнай нізкі, займаўся перакладам твораў з іншых моў. Багдановіч змог напісаць прыгожыя і глыбокія вершы ў складаных памерах:

***Трыолет***

*Як птушка ў гібкіх трасьніках,*
*Стралою думка мільганула,*
*І ўраз жэ знікла, патанула,*
*Як птушка ў гібкіх трасьніках.*
*Ды ўсё-ж душа яе пачула*
*І ўжо пяе ў такіх славах:*
*«Як птушка ў гібкіх трасьніках,*
*Стралою думка мільганула».*

## «МАДОННЫ»

Гаворка пра сапраўдную прыгажосць, пра дзяўчыну з рысамі, што нагадвалі яму маці, пра першае каханне… Вершы Багдановіча вучаць нас заўважаць прыгажосць душы, прыгажосць непрыкметную, але сапраўдную і жывую.

*…А можэ не краса была ў дзяўчыны той, —*
*Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой, —*
*А штосьць вышэйшае, што Рафаэль вялікі*
*Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.*

Рукапіс будучага зборніка праляжаў у рэдакцыі «Нашай нівы» больш чым паўгода, бо не было грошай, каб надрукаваць яго.

***Паліна Пархімовіч,***
***9 «Б» клас,***
***гімназія № 10, Мінск***

# Крокамі Багдановіча

*Экскурсія па кабінеце-музеі*

***У спрэчцы з Хрыстом святы Пётр спрабуе акрэсліць мэты мастацтва. Ён згаджаецца на прысутнасць песні (мастацтва) у жыцці чалавека, але адначасова абмяжоўвае яе ролю: «…але няхай жа ў песнях будзе страва для душы, няхай будуць думкі добрыя і навучаючыя, каб апроч красы быў у іх і спажытак чалавеку». Але Хрыстос не прымае такі падыход, ён разумее неабходнасць і самакаштоўнасць красы. Ён кажа: «…няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы» (апавяданне Максіма Багдановіча «Апокрыф»).***



*Яна Багуслаўская*

— Максім нарадзіўся 9 снежня 1891 года ў Мінску на Траецкай гары. Вуліца тады называлася Аляксандраўскай. Бацькі паэта — Адам Ягоравіч і Марыля Апанасаўна — былі інтэлегентнымі, высокаадукаванымі людзьмі. Адам Ягоравіч Багдановіч — педагог, перакананы дэмакрат, прысвяціў жыццё вывучэнню культуры і быту народа. Маці працавала настаўніцай, любіла літаратуру, спрабавала пісаць апавяданні.

Праз паўгода пасля нараджэння Максіма сям'я пераехала ў Гродна. З-за хваробы Адам Ягоравіч вымушаны быў пакінуць настаўніцкую працу і паступіць на службу ў Гродзенскі сельскагаспадарчы банк.

Тут, у Гародні, Максім спазнаў вялікае гора — смерць маці. Яна памерла ад сухотаў. Было ёй тады дваццаць восем гадоў. Страта дарагога чалавека вострым болем адбілася ў сэрцы Максіма, пакінула ў дзіцячай душы, а пазней і ў творчасці, глыбокі-глыбокі след.

*Жадаючы з'явіць цераз свае халсціны*
*Пачуцці мацеры ў вобліку дзяўчыны.*
*Красы тэй сімвалам, Маць-Дзева, стала ты, —*
*І глянулі твае з-пад пэндзаляў чэрты.*

У кастрычніку 1896 года сям'я пераехала ў Ніжні Ноўгарад. Нябожчыцу маці па першым часе замяніла сястра Адама Ягоравіча Марыя. Потым — яго другая жонка, Аляксандра Паўлаўна Волжына, родная сястра Максіма Горкага.

**Даведка**

***Кабінет-музей Максіма Багдановіча размешчаны ў сталічнай гімназіі № 10. Існуе з 1 верасня 1997 года. Экскурсанты — вучні старэйшых класаў.***

— Самай важнай падзеяй у жыцці Адама Ягоравіча было яго блізкае знаёмства з рускім пісьменнікам Максімам Горкім, якое хутка перарасло ў сардэчнае сяброўства. Адам Багдановіч і Максім Горкі часта сустракаліся, гаварылі пра літаратуру, мастацтва, фальклор, вялі размовы на грамадскія і філасофскія тэмы. Максім Горкі да апошніх гадоў вельмі высока цаніў Адама Багдановіча як навукоўца, дапамагаў яму ў выданні прац, а часам і матэрыяльна. Як рэліквія ў сям'і Багдановічаў з 1890-х захоўваўся падарунак Горкага — рэпрадукцыя «Сіксцінскай мадонны» Рафаэля Санці. Максім у сваім знакамітым вершы «Вераніка» пісаў:



*Дар'я Маліноўская*

*У тэй, што з постацыю дзяўчыны*
*Злівала мацеры чэрты.*
*О, як прыгожы — дзіўны ты,*
*Двайной красы аблік ядыны!*

У адзінаццаць гадоў Максім паступіў у першы клас Ніжагародскай гімназіі. У гады вучобы ён шмат чытаў. За гэта сябры-гімназісты называлі яго Максімам Кніжнікам. Вельмі ён любіў паэзію, музыку, народныя песні і казкі. З рускіх паэтаў захапленне ў яго выклікалі творы Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Фета і Блока. З гімназічнага навучання Максім Багдановіч вынес інтарэс да антычных літаратур — рымскай і грэчаскай, захапленне лацінскай мовай, неблагое веданне французскай і нямецкай.

У Ніжнім Ноўгарадзе жылі дзве яго цёткі — Марыя і Магдалена, у асяроддзі якіх панаваў беларускі дух і непасрэдная цікавасць да Беларусі. Сястра Адама Ягоравіча Магдалена Гапановіч, па яго словах, «была носительницей традиций рода», шанавала беларускія песні, казкі, крылатыя выразы. Таму першымі настаўнікамі «беларусікі» будучага паэта можна назваць яго цётак.

У Ніжнім Ноўгарадзе бачым пачатак драмы, якая пралегла паміж бацькам і сынам. Максім захапляўся Беларуссю, яе гісторыяй. Бацька ў беларускую ідэю не верыў, не лічыў беларусаў народам, а мову беларускую прымаў за «наречие». Таму і да заняткаў сына «беларусікай» Адам Ягоравіч ставіўся паблажліва. Таму і сына, вялікага беларускага паэта, бацька не разглядзеў.

*Ой, чаму я стаў паэтам*
*У нашай беднай старане?*
*Грудзі ныюць, цела вяне,*
*А спачыць ня можна мне...*

Сям'я жыла беднавата. Рэдка ў хаце былі і госці. І нягледзячы на такія няпростыя жыццёвыя абставіны, Максім-Кніжнік пісаў свае бессмяротныя вершы.

У 1908 годзе Максіма напаткаў яшчэ адзін надзвычай моцны ўдар: ён страціў брата-сябра. А ў яго самога пачалі праяўляцца прыкметы сухотаў. Можна было

думаць пра несправядлівасць лёсу, які забіраў у паэта самых блізкіх людзей, але менавіта ў гэты час Максім вельмі шмат піша. У «Нашай ніве» друкуецца сімвалічнае апавяданне «Музыка».



*Паліна Валчэцкая*

— Яраслаўскі перыяд жыцця Максіма Багдановіча — гэта ўжо час актыўнай творчасці паэта, узвышэнне яго і як мастака слова, і як крытыка, хаця гэта быў і самы драматычны адрэзак яго жыцця. Бацька не падтрымаў яго намеру паступіць на філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, куды малады таленавіты паэт быў рэкамендаваны самому акадэміку Шахматаву. Матывацыя наступная: сын Леў — выдатны матэматык і яму трэба абавязкова паступіць у Маскоўскі ўніверсітэт, а Максіму не падыходзіць пецярбургскі клімат. Таму, скончыўшы ў 1911 годзе Яраслаўскую гімназію, Максім паступіў у не вельмі любы сэрцу яраслаўскі Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй. Сваю крыўду на бацьку сын не выказваў, але замкнуўся ў сабе. Мэта яго жыцця ўжо акрэслілася выразна, і ён пачаў жыць толькі яе здзяйсненнем.

У кароткім прамежку часу паміж гімназіяй і ліцэем у жыцці Багдановіча адбылася падзея, якая нечакана сагрэла і ўсцешыла яго, глыбока засмучанага сваім вымушаным адрачэннем ад будучыні, да якой імкнуўся ўсёй душой: летам 1911 года ён наведаў Вільню, цэнтр тагачаснага «беларускага адраджэння», і правёў там больш за два месяцы. «Далёкая загадкавая Радзіма» ўпершыню з'явілася Максіму ва ўсёй рэальнасці народнага побыту, ва ўсёй нягучнай і сумнай сваёй красе.

Вярнуўшыся ў Яраслаўль, Багдановіч з яшчэ большым захапленнем аддаўся самастойным заняткам у галіне ўсё той жа «беларусікі» і — шырэй — агульнаславянскай гісторыі і літаратуры.

Восенню 1916 года, разлічыўшыся з нямілай юрыспрудэнцыяй, сяк-так скончыўшы ліцэй, Багдановіч прыязджае ў Мінск, дзе ўладкоўваецца на службу ў губернскую харчовую камісію. Адначасова ён — актыўны дзеяч Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. Часта выступае перад моладдзю, задумвае хрэстаматыю для пачатковай школы, многа піша.

Але пагібельная хвароба прымушае кінуць усё: планы, справы, сяброў. У лютым 1917 года Багдановіч едзе ў Ялту.

Надзеі на папраўку амаль не было: ён гэта ведаў добра. І ўсё ж паехаў. Можа, нават і для таго, каб хоць трохі супакоіць сяброў. Дзіўная рэч: за ўсе іхнія клопаты ён мог аддзячыць хіба што згодай на гэтую паездку.

*Нудна льюцца, марудны і серы,*
*Каламутнымі хвалямі дні*
*Ой, чаму ж а надзеі і веры*
*Пагасіў у душы я агні?*

Памёр Максім Багдановіч на досвітку 12 мая 1917 года, і рукі чужых людзей, якія пахавалі яго на Аўткінскіх могілках, недалёка ад дачы Чэхава, напісалі на магільным крыжы: «Студэнт Максім Адамавіч Багдановіч».

Сярод папер, што засталіся пасля нябожчыка, былі знойдзены матэрыялы для беларускага буквара, над якім ён, мабыць, працаваў у апошні час. І ліст да бацькі, чамусьці не адасланы: «Здароў, стары верабей. Маладому вераб'ю блага». А на крэсле ля самага ложка — кніга, і на ёй кароткі, у адну страфу, верш, перадсмяротнае прызнанне, бадай, адзінае ў сваім родзе ва ўсёй сусветнай паэзіі:

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

Багдановіч гаворыць пра сваю, на жаль, адзіную кнігу, якую ён паспеў выдаць: пра зборнік «Вянок», што ўбачыў свет у 1913 годзе, г. зн. за чатыры гады да трагічнага мая — вось як доўга жыло ў ім пачуццё аўтарскай радасці і здзіўлення перад кнігай, пачуццё яе дзіўнай улады над сабой, ужо асуджаным…

— «Нашто каласы, калі няма васількоў?» — гаворыць паэт у «Апокрыфе» вуснамі Хрыста. І мы разумеем гэта так: нішто не мае ў гэтым свеце каштоўнасці, калі яно не азорана святлом духоўнасці; не стане чалавек асобаю, калі ў яго няма ніякіх духоўных патрэб і цягі да Прыгожага, да мастацтва. Бо жыццё без мастацтва, без паэзіі (васількоў) — не жыццё. «Добра быць коласам, — сцвярджае Максім Багдановіч, — але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком».


Анастасія Жызнеўская

Не кожнаму даецца гэты высокі дар, так, але быць адухоўленым чалавекам можа і павінен кожны.

Глыбокі след у творчасці і душы Максіма Багдановіча пакінула сястра яго гімназічных таварышаў Рафаіла і Мікалая Какуевых — Аня. Дзяўчына вылучалася той самай неўміручай Жаноцкасцю — у найлепшым, найвышэйшым сэнсе гэтага слова! — разгадаць таямніцу якой намагаўся Максім Багдановіч. Ёй быў прысвечаны паэтычны цыкл «Мадонны» — самыя запаветныя і дарагія Максімавы думкі, самае светлае, што калісьці нараджалася ў яго. І менавіта яна, Аня, з'явілася правобразам галоўнай гераіні вершаванага апавядання «Вераніка». Да лірычнай тэмы належыць і «Трыялет», напісаны ў 1913-м, праз год пасля таго як Аня Какуева паехала з Яраслаўля на вучобу.

*Усё праходзе — і радасць, і мукі,*
*Але будзеш мне помніцца ты, —*
*Броўкі цёмныя, вузкія рукі*
*І галоўкі радок залаты.*

# Асабіста

***Маё знаёмства з творчасцю Максіма Багдановіча адбылося даўно, я ўжо і не памятаю калі. Быццам яго вершы былі са мной заўсёды, прымушалі плакаць і смяяцца, задумвацца аб нечым вельмі важным і ісці далей, як бы ні было цяжка. Лёс Максіма Багдановіча такі ж незвычайны, як і яго паэзія. Ён не толькі нарадзіўся беларусам, ён яшчэ змог ім стаць.***

Я заўсёды захаплялася гэтым незвычайным чалавекам: яго рэдкім талентам, любоўю да Радзімы. Але больш за ўсё тым, што ён пайшоў супраць плыні, не здаўся ў цяжкіх жыццёвых абставінах, імкнуўся да сваёй мары. У дзіцячым узросце Максім Багдановіч пакінуў Бацькаўшчыну. Тут і павінна была скончыцца гісторыя, так і не пачаўшыся. Напэўна, яго чакала яскравая будучыня, можа нават, хто ведае, ён стаў бы знакамітым рускім паэтам, яго бацька сябраваў з Максімам Горкім. Але гэты незвычайны чалавек не выбраў самы лёгкі шлях. Кідаючы выклік лёсу, з вялікай апантанасцю ён самастойна вывучыў беларускую мову па выпусках газеты «Наша ніва». Усё яго жыццё нагадвае бясконцае змаганне за права жыць на роднай зямлі і гаварыць на роднай мове. Таму і вершы яго не проста падабаюцца, а чапляюць за жывое, бо напоўнены цяжкай працай паэта, і ўсе пачуцці яго — і радасць, і сумненні, і боль, і каханне — успрымаюцца як свае, асабістыя.

Сэрца паэта не кахае аднойчы… У жыцці Багдановіча здарылася не адна сардэчная гісторыя. Пакуты сэрца былі для яго нечым накшталт неабходнай умовы, каб тварыць. Самы знакаміты «Раманс», як лічаць, прысвечаны Ганне Какуевай, сястры аднаго з сяброў-гімназістаў Максіма. На жаль, каханне не было шчаслівым, Ганна не адказала на пачуцці Багдановіча і неўзабаве ўзяла шлюб з паэтам Іванам Лілеевым. Лёс Ганны таксама склаўся няпроста. Але «Вянок», падпісаны Максімам (не ёй, а яе мужу), яна зберагла…

Калі на хвіліну перастаць звяртаць увагу на яго талент, то можна ўбачыць не паэта, а проста чалавека. Ён, скажам, жывучы на працягу пяці месяцаў у Мінску, адмаўляўся піць гарбату з цукрам. І такім чынам назбіраў ажно цэлую навалачку салодкага, а потым занёс яго ў дзіцячы прытулак.

Памёр далёка ад зямлі, якую любіў і аб якой пісаў, у Ялце. Апошнія дні 25-гадовы малады чалавек правёў адзін, без родных, без сяброў, трымаючы ў руках зборнік вершаў «Вянок»…

Вялікі паэт, неверагодны чалавек, Максім Багдановіч, жыве і сёння ў сэрцы кожнага беларуса. Я вельмі спадзяюся, што на Нябёсах яго вялікае добрае сэрца знайшло спакой. Там ён бачыць, як кожную раніцу ўстае над Беларуссю сонейка, а ноччу на небасхіле ўзыходзіць яго «Зорка Венера»…

***Ганна Варонка***

# Дзед Мароз садзіцца ў сані…



## ПА ЗІМНЯЙ СЦЕЖЦЫ

Іду па сцежцы зімняй,
дзе сонейка ўгары...
На дрэве серабрыстым
гасцююць снегіры.
Мароз кусае шчокі,
як дыяменты — снег.
Свае я чую крокі
і нечы дзіўны смех.
Здаецца мне, што ў лесе,
як белыя грыбы,
Стаяць вясёлым гуртам
магутныя дубы.
Як хораша па сцежцы
ісці і назіраць,
З прыродай, як з сяброўкай,
аб нечым размаўляць.

***Вікторыя СКРЫПКО,***
***10 клас, «Заслаўская гімназія»***

## ЗІМА

Вось зноў зіма халодная
Здалёк да нас прыйшла.
Завеі зноў з марозамі
З сабою прывяла.
Снег з неба сыпле густа,
Вятрыска загуляў…
Мароз сярдзіты рэчкі
У срэбра закаваў.
А дрэвы апранулі
Бялюткія плашчы…

Пад сонейкам халодным
Снег, як агонь, блішчыць.

***Дзяніс КОЗІК, 9 клас,***
***Літаратурны***
***клуб «Пегасік»,***
***Забалацкая СШ,***
***Воранаўскі раён***



## НАВАГОДНЯЯ ПАРА

Для дзяцей вясёлы час —
Новы год ідзе да нас…
Будзем мы яго чакаць,
Песні, вершы рыхтаваць!

Дзед Мароз садзіцца ў сані,
У яго не блізкі шлях!
Панясуць дзядулю сані
Па лясах і па палях!

Ну, а потым тыя сані,
Вось пабачыце вы самі,
У вясёлы гэты час
Завітаюць і да нас!

***Ганна КАРСЮК,***
***8 клас, Шашкоўская СШ,***
***Стаўбцоўскі раён***

## ЗІМА ПАЖАРТАВАЛА?

Чакаў зіму з такой ахвотай!
Яе няма — імгла і слота.
Дарэмна лыжы даставалі:
Зіма й Мароз пажартавалі?
Прыходзь, Вясна, з цяплом і сонцам,
Прышлі ўсмешку мне ў аконца!

***Ілья ЛОБАН,***
***4 клас, СШ №4, Салігорск***

## МАЯ СЯМ’Я

Тата на канапе спіць —
Тэлевізар так глядзіць.
Побач мама і Сашуля…
Ну, а я ўсіх іх малюю!

Намалюю потым дом,
Тут, у доме, мы жывём.
Домік наш з прыгожым садам,
І гасцям заўсёды рады!

***Антон МАЗУРКЕВІЧ,***
***10 клас, Шашкоўская СШ,***
***Стаўбцоўскі раён***

***Мастачка Дар'я Чупрыс***



### ЗАБЯРЫ ПАДАРУНАК

Патрэбны дзве каробкі (можна з-пад абутку), упрыгожаныя бліскучай паперай або расфарбаваныя. У каробках прызы, да кожнай з іх прымацавана стужка, на другім канцы якой трымаецца аловак. Па сігнале ўдзельнікі пачынаюць накручваць стужку на аловак. Хто зробіць гэта хутчэй, той забірае свой прыз.

*Эдвард Мілітанян*

# Сотні матываў зліюцца ў адзін…

## КАЧАН-ТАНЦОР

— Як навучыцца танцаваць? —
Спытаў качан, — з чаго пачаць?
Я спрабаваў, і шмат разоў,
Ды ўрокі браць
Мне трэба зноў.

— У гэткіх строях, мілы мой,
Вам не скакаць —
Гуляць зімой, —
Цыбуля першай ад усіх
З ухмылкай выказалася ўслых. —
У кажусе ды ў паліто
Не танцаваў яшчэ ніхто.

Падтакнуў ёй маўчун бурак:
«Ніхто, нідзе, так-так, так-так!»

Качан падумаў,
Зняў кажух,
І паліто ўраз долу — ш-шух!
Накідку зняў і зняў пінжак,
І выхадны нядзельны фрак,
Зняў хустку з шыі,
Зняў жакет,
Мо пяць кашуль —
За ім услед.

І ўсклікнуў раптам: «Не ўжо, не!
Нашто такія мукі мне?
Я ўборы ўжо скідаць прыстаў!» —
І распранацца перастаў.

І ўжо, хачу я вам сказаць,
Не спрабаваў ён танцаваць.



*Эдвард Мілітанян — вядомы армянскі паэт, аўтар шматлікіх кніг. Усе яго дзіцячыя творы напісаны ў займальна-казачным стылі, прасякнуты тонкім гумарам. Праз сваіх герояў паэт вынаходліва распавядае цікавыя гісторыі, якія адкрываюць для юных чытачоў новы маляўнічы свет.*

## ВЕРНЫ СЯБАР

Сабака загаўкаў —
Ланцуг нацягнуўся,
І ганак раптоўна
З падмурка скрануўся,
Сцяна пахіснулася
І ажыла,
Кудысь па дарожцы
Пясчанай пайшла.

Сабака на рэчку
Купацца ідзе,
І дом за сабакам
Плыве па вадзе.
Плыве за сабакам
Рачулкаю дом.
Трубою віляе,
Нібыта хвастом.

А кошку заўважыць —
Яго не ўтрымаць!
Не спіць па начах —
Трэба двор вартаваць.
І любіць на сонцы
Ў пяску паваляцца,
Ды толькі зусім
Ён не ўмее кусацца.

Калі хтосьці скажа,
Што так не бывае,
У горадзе гэтым
Хай сам пабывае.
Хай там адшукае
Сабаку і дом,
І ўсё нам раскажа
Пасля перад сном.





## КАЛІ ПАСЕЯЦЬ ГРАД…

Варта пасеяць град
Летам або з вясны,
Можа быць, вінаград
Вырасце ледзяны,
Можа, тут сад узрасце,
Каб і праз шмат гадоў
Мог частаваць дзяцей
Смакам халодных пладоў.

Ды мне прызнаўся град:
— Быў бы я вельмі рад,
Каб у зямлі ляжаў,
Каб у цяпле я спаў,
Каб, весні чуючы гром,

Дрэвам я стаў ці кустом,
Каб мог увосень страсаць
З галля на дол плады…
Крыўдна… Магу я стаць
Толькі кропляй вады.

## КАЗКА ПРА ЗАЙЦА І БУБЕН

Заяц бубен знайшоў у бары:
«Можа, нехта згубіў знарок?
Стукнеш лапкай —
Разбудзіш лісу ў нары.
Кінеш бубен —
Прачнецца воўк».

Як жа беднаму зайцу быць?
Як ранейшы спакой вярнуць?
Страшна лапкай паварушыць,
Страшна хвосцікам варухнуць.
Можа, нехта ўжо сочыць здаля?
Можа, з роспачы воўкам завыць!..
Раптам чуе ён трэск галля,
Азірнуўся — мядзведзь стаіць.

— Добры дзень! Як жывецца, брат?
Што не скачаш, чаму не рад?
Што разгублены гэткі стаіш,
Як асінавы ліст дрыжыш?

— Я… тут… бубен знайшоў… нясу, —
Прашаптаў ён і тут жа замоўк.
Стукнеш лапкай —
Разбудзіш лісу,
Воўк прачнецца —
Зубамі шчоўк!

— Дай мне бубен, — сказаў мядзведзь.
Зазвінела на бубне медзь.
— Ах, які меладычны звон!
Паглядзім жа, як грае ён.
Ну-тка, заяц, не бойся, давай
Бі ў свой бубен,
Яму падпявай,
І крычы, каб маглі ўсе пачуць, —
І, павер, воўк з лісой уцякуць!



## БАЛАДА ПРА ПЧОЛАК І СКРЫПКУ

Тры пчолкі па полі гулялі,
Гулялі, мёд з кветак збіралі.
Гулялі ад ранку да ночы
І патрапілі ў скрыпку аднойчы.
Патрапіць туды не хацелі —
Зусім выпадкова ўляцелі.
Памкнуліся выбрацца, ды…
Адтуль ні туды, ні сюды!
Заплакалі бедныя пчолкі:
— Бывайце, лугі і прасёлкі,
Бывайце, сяброўкі-кузуркі, —
Нам больш не гуляць з вамі
ў жмуркі!
Бывайце, чмялі і стракозы, —
Без нас вам лятаць на пракосы!
Бывайце, званочкі, рамонкі, —
Не ўчуць вам больш нашай
гамонкі!
Бывай, з мілай грэчкаю поле, —
Не выбрацца ўжо нам на волю…
Людзей жа здзівіла нямала:
— Што раптам са скрыпкаю
стала?
Сама па сабе зайграла,
Заплакала, засумавала…

Скрыпач, малады і вясёлы,
Сказаў ім: «Ах, бедныя пчолы,
Як можна ўявіць такое,
Каб скрыпка вам стала турмою?»
І выпусціў пчолак на волю.
І змазаў смычок каніфоллю,
І ўзяўся складаць без адкладу
Пра пчол-паланянак баладу.
Ды скрыпачка граць не жадала,
А плакала і сумавала,
Як быццам хацела на волю,
Туды, дзе грачанае поле,
Туды, дзе лугі і пасёлкі,
Дзе кружаць над верасам пчолкі,
Дзе сонца садзіцца за борам
І сосны спяваюць з ёй хорам.

***Мы звыкліся з тым, што Дзед Мароз павінен прыносіць дзецям падарункі. А ў нашых продкаў было наадварот. Яны зімой самі Дзеду Марозу падарункі рабілі, каб хоць неяк яго ўлагодзіць. Бо быў тады Дзед Мароз не добрым, як цяпер, а сярдзітым і вельмі грозным.***

## НАЧНЫ КАНЦЭРТ

Вы на канцэрт не купілі білет?
Як не купілі?!
Я выдам сакрэт:
Завідна вы пасняшайце ў жытло
Рыжай вавёркі —
У дубе дупло.
Там не арэшкі вавёрка грызе,
Там па білеты стаяць у чарзе,
Дайце цукерку ёй ці жалудок —
І атрымаць пашануе квіток.
Толькі апусціцца вечар з-за хмар,
Цішай навокал атуліць абшар,
Ветрык задрэмле, зрабіўшы аблёт, —
Песню сваю запявае чарот,
Следам за ім запявае трава,
Ёй адгукаецца з цемры сава.
Чуеце, чуеце, побліз палянкі
Песні запелі смаржкі і ваўнянкі,
Следам за імі запелі страчкі
І цвыркуны падхапілі смычкі:
Ім, скрыпачам адмысловым, на месцы
Сола ў канцэрце
Даверана весці.
І запішчалі захоплена мошкі:
— Гэй, камары. Расступіцеся трошкі!
Іх, адцясніўшы, пусціліся ў скокі,
Аж пацямнелі ад пылу аблокі.

Гулка забілі зайцы ў барабаны,
Гай заспяваў, заспявалі паляны.
Шэпчуцца травы —
Матыў у іх свой.
Ёсць ён у клёнаў, бярозак і хвой,
Ёсць у галінкі і ёсць у пяска,
Ёсць у аера ён і ў лазняка,
Ёсць у пагоркаў і ёсць у раўнін…
Сотні матываў зліюцца ў адзін!

*Пераклад на беларускую*
*Міколы Чарняўскага.*

*Мастачка Дана Рунова*



У той год восень зусім не спяшалася. Ішла ціхімі жоўтымі крокамі, фарбавала дрэвы, студзіла ваду, губляла жменямі жалуды і каштаны на забаву малым дзецям, а напрыканцы, перад адыходам, рассыпала першы снег, як нядбайныя гаспадыні рассыпаюць соль, і нечакана наступіў снежань. Надзя ішла ў школу, хрумсцеў пад ботамі далікатны лядок, а на душы было светла і весела. У галаве круціўся леташні вершык, які Надзя чытала на ранішніку: «Па зямельцы Дзед Мароз поўны мех сняжынак нёс. Рассяваў іх па палях, па лясах і па лугах». Ах, хутчэй бы Новы год!

Гэтае свята ў іх сям'і адзначалі няшумна, без гасцей. Прыходзіла толькі даўняя бабуліна сяброўка цётка Зіна.

— А чаму яна сыходзіць з дому ў Новы год? — не магла зразумець Надзя. — Ты ж казала, што гэта дамашняе свята.

— Дамашняе, — пагадзілася бабуля, — але калі дом пусты і ты ў ім адзін, мала радасці ад такога свята.

— А чаму дом пусты? — спытала Надзя.

— Ты толькі ў Зінаіды не ўздумай спытаць пра гэта! Не ва ўсіх жыццё складваецца, — адказала бабуля цьмяна, але Надзя зразумела. Жыццё — гэта як пазл. Пачнеш складаць — і то цярпення бракуе, то дэталькі губляюцца. Можа, і ў цёткі Зіны страцілася ў жыцці штосьці важнае… Добра хоць, з сяброўствам пашанцавала.

І як жа здзівілася дзяўчынка, калі за два тыдні да Новага года неразлучныя сяброўкі моцна пасварыліся. Яны ўспаміналі мінулае і пачалі спрачацца, якое надвор'е было ў той дзень кастрычніка, калі нарадзілася Надзя. Бабуля сцвярджала, што дзянёк выдаўся волкі і сыры, ліло як з вядра і яна прамачыла ногі, калі бегла ў радзільны дом з перадачай. Цётка Зіна ўпарта казала пра выдатнае сонечнае надвор'е — маўляў, так прыпякала, што яна нават зняла жакетку падчас шпацыру. Надзя рыхтавала ўрокі і пасмейвалася, калі з бабулінага пакоя да яе даносіліся выгукі: «Па-твойму, я не ў стане запомніць падзеі дзевяцігадовай даўнасці?», «Ну, ведаеш, у тваім узросце чалавеку ўласціва блытаць і памыляцца!», «Ну, ведаеш, ты і сама не дзяўчынка!» Але калі пляснулі ўваходныя дзверы, а на кухні бразнула бутэлечка з валяр'янкай, Надзя захвалявалася:

— Бабуля, вы пасварыліся?

Бабуля тэатральна ўзмахнула рукой ды наліла сабе яшчэ вады.

— А ты казала: хто разумнейшы, той саступіць, — узгадала Надзя першы сродак для вырашэння канфлікту.

— Гэта не той выпадак! — успыхнула бабуля. — Я яшчэ розум не страціла і выдатна ўсё памятаю!

Дробязная, здавалася б, сварка зацягнулася і перарасла ў доўгую спрэчку. Гэта было вельмі нязвыкла, бо бабуля і цётка Зіна жыць адна без адной не маглі, кожную раніцу пачыналі з тэлефоннай гутаркі, абмяркоўваючы ўсё запар: ад палітыкі да суставаў, што ныюць да дажджу, ад Надзіных адзнак да рэцэпта піражкоў альбо кошту на што б там ні было. Цяпер тэлефон маўчаў, і частыя візіты спыніліся. Напэўна, абедзве нудзіліся і шкадавалі, што нагаварылі адна адной рэзкасцей, ды толькі сказанага не вернеш.

Надзя разважала, як іх памірыць. Можа, патэлефанаваць цётцы Зіне ды бабуліным голасам сказаць: «Зінуля, я раскайваюся, прабач, даражэнькая!»? Але

колькі Надзя ні рэпеціравала, голас атрымліваўся не бабулін, а нейкі куранячы. А можа, падрабіць бабуліну руку і напісаць цётцы Зіне пакаянны ліст? Але каліграфічны старамодны почырк ёй таксама не ўдаўся. А потым пачаўся апошні школьны тыдзень, трэба было тэрмінова выпраўляць адзнаку па матэматыцы, вучыць верш да ранішніка, шыць убранне сняжынкі... Ах, колькі спраў перад Новым годам, вышэй галавы!

Неяк раніцай тата праводзіў Надзю да школы і спытаў, ці напісала яна ліст Дзеду Марозу. Надзя ўсміхнулася: яна не верыла ў казкі. Сказала шчыра:

— Татка, я ж не маленькая, дзевяць гадоў ужо! Пойдзем у краму ды купім падарунак самі. Я ж ведаю, што ніякіх Дзедаў Марозаў не бывае.

— Як гэта не бывае? — высокім бурклівым голасам выклікнуў тата.

Калі Надзя была маленькая, гэты голас яе вельмі смяшыў, але цяпер за тату было нават крыху няёмка. Ён гэта адчуў, кашлянуў і сказаў звычайна, па-чалавечы:

— Не сумнявайся, Надзейка, Дзед Мароз — ёсць, абавязкова ёсць! Але я табе адкрыю таямніцу. Як быць Дзедам Марозам — гэтаму ў школе не вучаць. Гэта, — тата папстрыкаў пальцамі, падбіраючы патрэбнае слова, — стан душы. Вось як мама пірагі пячэ. Ці бабуля шкарпэткі вяжа. Гэта павінна прыносіць задавальненне, разумееш? І потым, Дзед Мароз не адзін, іх многа. Як настаўнікаў у школе, ці бабулек, ці паштароў. Так і Дзедаў Марозаў — цэлае войска. І яны бываюць розныя. Адны добрасумленныя, дораць тое, што ў іх просяць. А іншыя — абы адчапіцца.

«Абы адчапіцца» — гэта Надзя разумела. Так і мама пра тату казала, калі ён на 8 Сакавіка дарыў ёй чырвоныя ружы, хоць мама да руж не мела ніякіх цёплых пачуццяў, а больш за ўсё на свеце любіла жоўтыя цюльпаны.

— Так? Сапраўды? А чаму ж яна мне не казала? — здзівіўся тата.

— А яна казала. Але ты забыўся. Мужчыны не запамінаюць такія рэчы, не заўважаюць. Вось, напрыклад, калі бабулін дзень нараджэння?

— Э-э-э, — сказаў тата.

— А ў якой скрыні камоды ляжаць твае шкарпэткі?

— Ну-у-у, — сказаў тата.

— А якая сукенка сёння на маме? Якога колеру?

— Усё, я зразумеў, — сказаў тата засмучана. — Мне трэба тэрмінова прасіць у Дзеда Мароза новую галаву. А ты, дарэчы, так і не сказала, што хочаш у падарунак…

— Я мару пра фотаапарат, — сказала Надзя летуценна. — Як ты думаеш, Дзед Мароз разбіраецца ў тэхніцы? І ці хопіць у яго сродкаў?

— Калі не хопіць, я дабаўлю, — паабяцаў тата і падміргнуў.

Увечары Надзя пачула ціхую гутарку бацькоў. Цётка Зіна зусім засмумавала, яны наведвалі яе ўчора. І бабуля жаліцца — то на мігрэнь, то на сэрца. Маркоціцца. Мама падперла кулакамі шчокі і ўздыхнула, зусім як Надзя перад кантрольнай па

***Снегавікоў пачалі ляпіць не так даўно, у XIX стагоддзі, але адразу з нязменнымі іх атрыбутамі: вядром на галаве, мяцёлкай у руцэ і чырвоным носам-морквінай.***

матэматыцы: «Як жа нам іх памірыць? Шкада, што мне ў той дзень было не да надвор'я, пасля кесарава нічога не памятаю!»

Тата паведаміў сярдзіта, што рабіў запыт на метэастанцыю, але яны паднялі яго на смех. Затое ў кнігасховішчы адшукаліся старыя газеты, і прагноз надвор'я абяцаў праліўны дождж. Бабуля мела рацыю, цётка Зіна дарма вінавацiла яе ў няпамятлівасці. Эх, калі б можна было вярнуць усё назад.

*Кацярына Мядзведзева не проста піша цікавыя дзіцячыя творы. Яшчэ яна вядзе блог і майструе… цацачны дом для сям'і мышэй. Таксама цацачных, бо яны зроблены з воўны. А заадно складае пра іх казку з уласнымі фотаілюстрацыямі.*

— Слова не верабей, вылеціць — не зловіш, — сказала мама.

«Як быццам вераб'я так проста злавіць», — падумала Надзя. Яна ўявіла сабе бабулю і цётку Зіну, якія бегаюць за вераб'ямі, — і ўсміхнулася. Але потым спытала тату заклапочана:

— Прыйдзецца ім заводзіць новых сяброўак, так?

— Думаеш, гэта так лёгка — зближацца з людзьмі? — спытаў тата. — Мне вось не пашанцавала, з гадамі страціў усіх сяброў, адзін-адзінюткі застаўся…

— Як гэта — адзін-адзінюткі? А хіба мама — не твой сябар? — здзівілася Надзя.

Тата і мама зірнулі адно на аднаго і засмяяліся, а мама сказала рашуча, што напярэдадні Новага года яны з татам з'ездзяць па цётку Зіну і прывязуць яе, нават калі давядзецца арганізаваць выкраданне! Тата тады ўсміхнуўся і сказаў, што ў яго таксама ёсць ідэя.

Раніцай 31 снежня мама сышла на працу, бабуля — на рынак, тата дапіваў каву і таксама збіраўся бегчы, а Надзя корпалася ў абутковай скрыні — выбірала навагоднія паштоўкі для сяброўак. Ах, якіх толькі скарбаў не было ў гэтай скрыні. Велікодныя, калядныя, вясельныя віншаванні, краявіды розных гарадоў, што калісьці дасылалі бабулі сябры, тоўсты стос пасланняў цёткі Зіны, мудрагелістых і вясёлых, што яна дасылала з дамоў адпачынку. Асабліва дзяўчынцы падабалася картка з куранём у шкарлупіне, дасланая цёткай Зінай у гонар яе, Надзінага, з'яўлення на свет.

«Дарагая Ніначка, ад шчырае душы віншую з доўгачаканай унучкай! Як шкада, што я цяпер у санаторыі і не магу павіншаваць вас усіх асабіста. Тут ззяе сонца і шамацяць залатыя клёны, у такі дзень нараджаюцца толькі добрыя

## БОЙ КУРАНТАЎ

Удзельнікі дзеляцца на дзве каманды. Кожнаму даюцца ёлачныя цацкі, сняжынкі, гірлянды, флажкі і… прышчэпкі для бялізны. Пры дапамозе прышчэпак трэба развесіць усё на адным з членаў кожнай каманды (быццам ён ёлка). Стартуем пад запіс бою курантаў. Тая каманда, у якой, пакуль «гадзіннік б'е дванаццаць», атрымаецца самая прыгожая або самая смешная «ёлка», перамагае.

і шчаслівыя людзі. Пацалуй за мяне малую і наваспечаных бацькоў. І паводзь сябе добра, інакш я буду зваць цябе бабуляй пры людзях!».

Надзя перачытала паштоўку тры разы. Сонца. Клёны. Санаторый. Дык вось чаму цётка Зіна паўтарала пра гарачы, «быццам летні», дзень! Яна была ў іншым горадзе! А значыць, бабуля і цётка Зіна абедзве маюць рацыю, і ім няма чаго больш сердавацца і спрачацца! Заціснуўшы паштоўку ў руцэ, дзяўчынка выбегла з пакоя, каб падзяліцца радаснай знаходкай з татам.

Але тата тэлефанаваў камусьці па гарадскім тэлефоне і зрабіў Надзі знак не шумець.

— З надыходзячым вас, цётка Зіна!.. Дзякуй, дзякуй!.. Як здароўе? — з паўзамі казаў ён, і Надзя вельмі ясна ўяўляла бойкія цётчыны адказы. А тата працягваў: — Хацеў у вас пракансультавацца, цётка Зіна. Вы ж знаўца ўсіх зёлак ды карэнняў, што б такое лепш папіць ад арытміі і суставаў? І яшчэ ад галавы?.. Так, вы адгадалі, ну што зрабіць, гады не літуюць нікога… Нават не ведаю, што магло б паставіць яе на ногі! Новы год, свята, а яна з ложка не ўстае, зусім расклеілася…

Надзя круглымі вачыма глядзела на тату. Ён злавіў яе погляд і падміргнуў. Вядома, бабуля сапраўды шмат ляжала, на суставы скардзілася і на галаву… Атрымліваецца, тата зараз і не ашуквае. Дакладней, не зусім ашуквае. І збіраецца бабулю лячыць сам? А тата ўжо ківаў і рабіў выгляд, што запісвае: «Сланечнік? Ах, сардэчнік? Смятаннік? Што? Свя-та-ян-нік? Пяць мінут настойваць? Ах, пяць гадзін? Пракіпяціць? Працадзіць? А ў якой паслядоўнасці? А рамонак дадаваць да ці пасля? Ах, вы не казалі рамонак, вы казалі растаропша? Гэта я пераблытаў, ведаеце, зусім не разбіраюся… Так, значыць, настаяць і ўхутаць? Каго ўхутаць? Ах, настой ухутаць? Прабачце, калі ласка, а ў што ж яго ўхутаць?»

Потым ён маўчаў і пакорліва выслухоўваў усё, што цётка Зіна выказвала з нагоды яго разумовых здольнасцей. Надзя душылася бязгучным смехам, а тата заставаўся знарочыста сур'ёзным і толькі прыкладваў палец да вуснаў, а потым узрадавана закрычаў у трубку:

— Ах, як вы нас усіх выручыце, цётачка, бо ж хутка Новы год і так хочацца, каб усе былі здаровыя! Ды і традыцыі парушаць не варта, добрыя традыцыі таксама лечаць…

Потым тата павесіў трубку, маляўніча выцер пот з ілба і сказаў Надзі:

— Бабулі ні слова, зробім сюрпрыз.

Вярнуўшыся з ранішніка, Надзя адчула водар ванілі і какавы. Бабуля на кухні разводзіла карычневае густое цеста, далівала патроху ром: гатавала ўлюбёныя

## ВЯСЁЛЫ СНЕГАВІК

Патрэбен размякчаны пластылін: белы для цела снегавіка, чырвоны для носа-морквіны, чорны – для вачэй і вядра-капелюша. Двое ўдзельнікаў садзяцца побач за сталом, левая рука першага і правая рука другога павінны дзейнічаць так, нібыта гэта рукі аднаго чалавека. Гэта не зусім проста. Затое весела! Асабліва тым, хто назірае.

цёткізініны ромавыя шарыкі. «Значыць, яны памірыліся ўжо?» — узрадавалася Надзя. Пераапрануўшыся, дзяўчынка стала назіраць, як бабуля дабаўляе арэхі, дзеліць цеста на часткі, качае ў далонях невялікія духмяныя шарыкі, пасыпае іх цукровай пудрай.

Тут у дзверы пазванілі.

— Пэўна, гэта тата, ён абяцаў сёння вярнуцца крыху раней! — узрадавалася Надзя.

— Адкрый, дзетачка. У мяне рукі ў муцэ, — папрасіла бабуля. І пакуль унучка грукала замком і ланцужком, бабуля працягвала гучна, думаючы, што гэта тата: — Алег, не распранайся, я зараз піròжныя загарну, салату і яшчэ сяго-таго, адвязеш Зінулі. Новы год жа, як яна там адна, у мяне ўсё сэрца збалелася…

Але ў дзвярах стаяў не тата. Гэта была цётка Зіна ўласнай персонай. Прыбраная, з прычоскай, з мноствам падарункавых пакетаў і захутаным тэрмасам («Ад суставаў», — здагадалася Надзя). Яна пачула бабуліны словы — і вочы яе падазрона заззялі. Рашуча сунуўшы Надзі падарункі, цётка Зіна пакрочыла ў кухню.

«Ой, што будзе! Няўжо зноў пасварацца?» — спалохалася Надзя і хутчэй пабегла па выратавальную паштоўку. Але калі яна прымчалася на кухню і абвясціла: «Хутчэй глядзіце, што я знайшла!», бабуля і цётка Зіна сядзелі побач на зэдлічках, прамоквалі вочы насовачкамі і ўсміхаліся. Паштоўку яны прачыталі ўслых і чамусьці расплакаліся. Надзя капала ім валяр'янку і здзіўлялася: ну чаго плакаць, усё ж добра!

Потым вярнулася з працы мама, ад яе пахла марозам, духамі і мандарынамі. Надзя дапамагала ёй даставаць з торбаў цукеркі і шакалад, ёлачныя цацкі з кірмаша, а потым яны ўсе разам, у восем рук, чысцілі і рэзалі, смажылі і пяклі, змешвалі і адкаркоўвалі, а ў гасцінай пахла прыбраная ёлка і бялеў свежым абрусам святочны стол.

Чакалі толькі тату, а ён, насуперак свайму абяцанню, затрымліваўся, і Надзя бачыла, як мама паглядвала на гадзіннік. Але вось, нарэшце, тата з'явіўся, заінелы і чырванавухі, з букетам жоўтых цюльпанаў («Паўгорада аббегаў, пакуль знайшоў»), і Надзя са здзіўленнем убачыла слёзы на маміных вачах. Ну, што ж такое, чаму ўсе плачуць у гэты Новы год? Няўжо мама паспела разлюбіць цюльпаны і палюбіць якія-небудзь іншыя кветкі? Але не, мяркуючы па зіхатлівай мамінай усмешцы, цюльпаны яна любіла па-ранейшаму. «Які тата малайчына, няўжо Дзед Мароз ужо падарыў яму новую галаву?», — падумала Надзя і ўсміхнулася. А тата працягнуў падарунак і ёй: «Гэта табе ад Дзеда Мароза… і ад нас з мамай і бабуляй… у складчыну, затое менавіта такі, які ты хацела».

А потым яны сядзелі ўсе разам, пілі шампанскае і ліманад, раскладвалі па талерках шубу ды аліўе, слухалі, як па тэлевізары б'юць куранты дванаццаць разоў. Раскрыліся ў цяпле і саладка пахлі жоўтыя цюльпаны, зіхацела агнямі ёлка, а за акном мяло і веяла, нябесныя млыны сыпалі прыгаршчамі снег, і, нячутны ды нябачны, спускаўся на зямлю Новы год...

Надзя агледзела задаволеныя твары родных, задумалася, а потым раптам парывіста абняла тату і прашаптала яму ў самае вуха: «Я ведаю твой сакрэт, тата! Ты таксама Дзед Мароз!».

# Бярозка

Я ❤ самае неверагоднае!



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
М. М. Гілевіч

Падпісана да друку 10.12.2015 г.
Фармат 60х84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 5,14.
Тыраж 959 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск






Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Алесі Галоты.*






Згубіўся сабака. Маці папрасіла сына напісаць некалькі аб'яў і расклеіць іх. Праходзіць тыдзень, другі — ніхто не адзываецца.

— Ты што ў аб'явах напісаў? — пытаецца маці.

— Шарык, да мяне! — адказаў сын.

***— Колькі будзе тры і чатыры? — пытаецца маці.***

***— Сем, — адказвае дачка.***

***— А сем і чатыры?***

***— Не ведаю. Мы да адзінаццаці яшчэ не праходзілі.***

***Вучаніцы 5 класа з гуртка «Юны журналіст» Гезгалаўскай СШ Дзятлаўскага раёна прапануюць свае зімовыя загадкі.***

* **

Кажушок белы апранула,
І прыйшла да нас сама,
Усё снягамі загарнула
Ноччу цётухна ……

*(Зіма)*

***Насця Жэмойтук***

* * *

На лугі ды на палі
Да вясны снягі ляглі.
Сёння ў студні лёд знайшоў.
Што за месяц надышоў?
Калі лёд у студні,
Гэта месяц …….

*(Студзень)*

***Паліна Жданук***

* * *

Ён прыйшоў да нас у хату,
Каб зрабіць у хаце свята.
Падарункі нам прынёс
Разам з ёлкай ………

*(Дзед Мароз)*

***Наташа Верабей***

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Што належыць табе, але іншыя выкарыстоўваюць гэта часцей?

**2.** Якой хваробай немагчыма захварэць у Беларусі?

**3.** Якую частку твару можна павесіць?

**4.** Што чалавеку бясплатна даецца двойчы, а калі ён пажадае мець гэта трэці раз, трэба плаціць?

**5.** Чым больш гэта ясі, тым больш ад яго застаецца.

## Падарунак ад




а




*Аўтар Ганна Кіслушчанка*

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Тваё імя.
2. Марской.
3. Нос.
4. Зубы (малочныя, пастаянныя, устаўныя).
5. Арэхі і шалупінне ад іх.

Новы інтэрактыўны аўтарскі праект

# Я - МАСТАК

Для тых, хто ўмее маляваць, і для тых, хто не ўмее











*Майстар-класы, артыкулы пра каштоўнасці сусветнай культуры, знаёмствы з маладымі беларускімі мастакамі.*

*Каб намаляваць гістарычную асобу, трэба вывучыць яе біяграфію, ведаць, якую вопратку насілі ў яе эпоху, уяўляць прадметы, якія маглі выкарыстоўвацца, бачыць адпаведныя пейзажы... Такім чынам, праект звязаны з урокамі гісторыі.*



На старонках часопіса «Бярозка» з 2016-га



*Калі ў якасці ўяўнага вобраза выбраны літперсанаж, то гэта, несумненна, пераклікаецца з урокамі беларускай літаратуры, падштурхоўвае цікавасць да больш глыбокага яе вывучэння.*



*Адбіткі рэчаіснасці, злепкі фантазіі, палотны вобразаў, вынікі працы душой і вачыма.*









ISSN 0320-7579

9 770320 757007 15012